

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 1(37) Студзень 1997 January Год выд. 5




## КАЛЯДЫ

(З паэмы «Новая зямля» — Якуба Коласа)

Куцця. Марозна. Хмурнавата.
Сняжок падкідвае заўзята;
Снег на куццю — грыбы на лета,
Такая матчына прымета,
А сцежкі чорны — ягад многа;
Ну, і за гэта хвала Богу.
Абегаў Ўладзя раўчавіну,
I клін, і пасечку, лагчыну.
Па жменьцы ў снег аўса стаўляе —
Зайцоў ён гэтым прывабляе,
Каб праз акенечка з каморы,
Калі прынадзіцца каторы
У ночку цёмную хадзіць,
Навесці стрэльбу і забіць,
Бо тут зайцоў было даволі.
I дроў на свята накалолі,
Трасянкі загадзя натрэслі,
Сянца пахучага прынеслі:
Куцці гаршчок ужо ў калена
Стаяў на лаве, чакаў сена,
I вось цяпер гаршчок з куццёю,
Як цар даўнейшаю парою,
У пачэсны кут, на свой прастол,
Стаўляўся з гонарам за стол
На гэта сена пад Багамі,
Ўладар над хлебам і блінамі,
Бо ён у гэты дзень — персона!
Яго вянчаў абрус-карона:
Гаршчок агорнуты пашанай,
Хоць ён фаміліі глінянай.

Якія ж матчыны намеры
Наконт куцці, наконт вячэры?
Ох, гэта дзецям знаць цікава,
Калі якая будзе страва,
У якім ліку, ў якім парадку?
Што на канцы і што ўпачатку?
А ў маткі ўсё абмеркавана
I ўсё прадумана ад рана.
Там, на гары, пад шчытам дзе-та,
Быў мак павешан яшчэ з лета —
Цяпер у цёрле ён пацёрты.
У патайным куце каморы,
Як смерць Кашчэя, пад запоры
Мядок быў хітра дзесь запёрты,—
Цяпер яго насталі часы,
Бо ён патрэбен для закрасы,
I што кісель той без сыты
У вечарок гэта святы?

Маўчком Антось часінай шэрай
У ельнячок шмыгнуў з сякерай:
Ці ж ён звярэдзіцца, сагрэшыць,
Калі малых дзяцей пацешыць
I іх ялінкай пад куццю
Хоць раз забавіць у жыццю,
Калі забавіць толькі зможа?
Ялінка ў хаце так прыгожа!
I колькі радасці і ўцехі!
На ёй валоскія арэхі,
А з пазалочанай паперкі
Глядзяць панадныя цукеркі;
I больш на ёй няма нічога,
Ды хіба ж дзецям трэба многа?
Даволі з іх і той прынады —
Яны давольны, яны рады.
У хаце добры лад і згода,
Як патрабуе і прыгода,
Паважнасць вечара святога —
Не ўчуеш слова ты благога,
I ўсе прыбраліс і памыліс,
Міхал з Антосем падгаліліс
I парасчэсвалі чупрыны.
— Ну, засцілайце стол, мужчыны! —
I стол той гуртам прыбіраюць,
Настольнік белы падымаюць,
На стол растрэсваюць мурог —
На сене колісь быў сын-Бог —
I роўным пластам расцілаюць,
Сянцо абрусам закрываюць.
За стол садзяцца ўсе ў парадку
I прад сабой кладуць аладку,
Відэльцы, лыжкі разбіраюць
I стравы першае чакаюць.
— Ты, брат, глядзі не ашукайся:
Не надта зразу накідайся,
Бо потым шчыра пашкадуеш,
Калі жывот свой напіцуеш:
Чым дальш — смачнейшыя патравы,
I многа іх, і ўсе цікавы;
Я знаю хітрасць гэту ўсю,—
Алесь гаворыць Кастусю.

Міхал бутэльку адтыкае,
Бо ўжо закуска тут чакае:
Стаяць, як горкі, скавародкі,
Тут акунькі, мянькі і плоткі,
Ды так падсмажаны, што люба —
Сама да іх імкнецца губа.
Гарэлка, радасць-весялуха,
Прыемна булькае для вуха
I гэтак вочы прыцягае,
Ну, як каханка маладая!
— Ну, што ж, Антось, здароў будзь, браце!
Няхай дае Бог лад у хаце,
Дабра, прыбытку прыспарае,
Каб у хляве ды ўсё пладзілась,
Каб жыта ў полі каласілась
Няхай раяцца добра пчолы,
I самі будзем мы вясёлы;
За год дай Божа дачакаць
Здаровым новы год спаткаць.
— Дай Божа! — дзядзька адазваўся
I сам з прамовай зварачаўся,
П'ючы цяпер да гаспадыні,—
Падатак кожнай дай часіне,
На ўсё гатовы ў кожным часе.

I вось вячэра зачалася!
Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырванаваты;
Тут быў таран, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,
Кялбок і ялец, плотка, язь,
Яшчэ засушаныя з лета.
Але не ўсё яшчэ і гэта:
Аздоблен квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;
Цыбуля, перчык, ліст бабковы —
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй — цішком скажу між намі,—
Каб і язык не ўцёк часамі.
За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку,
А там ламанцы-праснакі
З пшанічнай добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў ім, ну, як калодкі —
Так добра макам праняліся,
У рот паложыш — абліжыся.
За прасначкамі йшлі кампоты,
Кісель з мядоваю сытою;
Вячэру скончылі куццёю,
Але ўжо елі без ахвоты,
Абы падатак той аддаць,
Стары звычай ушанаваць.
I после гэтакай вячэры
Жывот выпучваўся без меры,
А з-за стала як уставалі,
То нават трохі і стагналі.

На першы дзень святых калядак —
Такі ўжо быў стары парадак —
Збіралі сена са стала,
Кармілі ім каня, вала
I ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, ў драбнюткім сене —
Здавён-даўна вялося й гэта —
Уважна зернетак шукалі
I па тых зернетках гадалі,
Які зародзіць хлеб налета.





**Др. Янка ЗАПРУДНІК — ведамы навуковы, грамадзкі і палітычны дзеяч, аўтар шматлікіх навуковых працаў і кніг, гісторык, публіцыст, незалежнік і вялікі беларускі патрыёт.**

**Дарагі Янка! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**



## "Голас Амерыкі" ўсё ж не будзе беларускамоўным

З абвяржэннем паведамлення, якое з'явілася ў некаторых сродках масавай інфармацыі, аб тым, што ўрад ЗША быццам бы выдзеліў 100 мільёнаў долараў радыёстанцыі "Голас Амерыкі" для вяшчання на беларускай мове, выступіла Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь.

Як паведаміла прэс-служба амерыканскай дыпламатычнай місіі, непаразуменне адбылося з-за памылкі дыктара радыёстанцыі "Голас Амерыкі", які назваў суму 100 мільёнаў долараў замест 100 тысяч. Потым памылковая інфармацыя цытавалася ў адным з матэрыялаў "Российской газеты", адкуль перайшла на старонкі некаторых расійскіх і беларускіх выданняў.

На самай справе, паводле сцверджання пасольства Злучаных Штатаў, урад ЗША выдзеліў 100 тысяч долараў ў выглядзе грантаў для развіцця ў Беларусі незалежных ад дзяржавы сродкаў масавай інфармацыі, што, паводле задумы вашынгтонскай адміністрацыі, павінна садзейнічаць станаўленню дэмакратычных інстытутаў, рыначнай эканомікі і расшырэнню галоснасці ў нашай краіне.

**Вадзім МІЛІЦЫН,**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.



# Land of woe: Tyranny only one of Belarus' many problems

By Martin Sieff
THE WASHINGTON TIMES

This may not be a holiday season of joy in the former Soviet republic of Belarus.

Late last month, after experiencing a referendum vote widely blasted by opposition critics and international human rights experts for fraud, Belarus' 10 million people found themselves more than ever under the firm grip of President Alexander Lukashenko, an unabashed totalitarian who has expressed admiration for the policies of Adolf Hitler.

Mr. Lukashenko "has engaged in a farce this week, and we cannot support it," State Department correspondent Nicholas Burns told reporters on Nov. 27.

The Belarussian president, Mr. Burns said, held "a referendum that is not supervised or observed internationally in an appropriate way, a referendum where the people don't know what's going to be in the referendum question, where there's no access to the media." On Nov. 29, Mr. Lukashenko continued the so-called "farce," barring his legislative opponents from the parliament building one day after signing the new constitution expanding his powers.

Mr. Lukashenko's opponents had been gathering daily in the building since the Nov. 24 referendum, but on Nov. 29, guards stopped them from entering. The parliament's meeting hall was sealed, with a sign "Under Repair" tacked to the door, the Itar-Tass news agency said.

But Mr. Lukashenko's tightening grip is only the latest worry for the Belarussian people. Caught on the main historical invasion route between Western Europe, Russia and Asia, their landlocked little country twice the size of Virginia has been hammered over the past decade by a succession of catastrophes.

Now it is also suffering an exploding AIDS epidemic, after being virtually free of the disease all these years.

As economic conditions deteriorated under Mr. Lukashenko, with his determination to recreate the old command economy of the Soviet Union, thousands of his destitute and despairing people turned to drugs.

And since even injection needles are in desperately short supply, they are using the same ones repeatedly. As a result, AIDS cases are skyrocketing.

The plague is hitting a population already afflicted by the cumulative effects of the radiation fallout from the April 1986 Chernobyl nuclear reactor accident, the worst civilian nuclear disaster in history.

Although the Chernobyl reactor complex is in neighboring Ukraine, winds blew the bulk of the radioactive fallout over Belarus.

The Minsk government estimates that 99 percent of the country's territory is seriously irradiated. They believe it will take at least a century to recover from the frightful health damage and deformities to generations of Belarussians.

Some 15 percent of the country's annual budget goes to health care for the continuing victims of the disaster, who suffer delayed effects, cancers, other diseases and inherited genetic defects from it.

"We got 70 percent of the radioactive fallout from Chernobyl because we were downwind of the reactor," Belarus' ambassador to Washington, Syarghei Martynau, told The Washington Times earlier this year. "The problem is huge, and it is going to be with us forever."

Even without AIDS, Chernobyl fallout and Mr. Lukashenko, the lot of the Belarussian people would hardly have been a bed of roses.

The collapse of the Soviet Union and developments in the world economy hit its obsolete heavy industries of the Soviet military-industrial complex especially hard.

Nor does the landlocked little nation have natural resources comparable to those of neighboring Poland or Ukraine that offer the hope of transforming it into a prosperous, food-exporting breadbasket.

Unlike Ukraine, with its coal reserves in the Don Basin, or Donbass, Belarus has no major energy sources of its own and remains nearly totally dependent on Russian oil and gas.

# Dark Clouds Set Over Belarus

**By Larisa Sayenko**

*MN Bureau, Minsk*

**President Alexander Lukashenko is celebrating victory: officially 75 percent of the country's residents gave their support to the Belarusian president in the November 24 referendum. But the foreign community has urged the maverick leader to step back, and consider the referendum result as consultative, not binding. Frankly, the chances of him doing such a thing are slim.**

The vote confirmed popular approval of Lukashenko's proposals to vastly extend his presidential powers. Among other things, the executive branches of government have been blocked, and the president of the republic is in almost full control of the parliament, as well as the Constitutional and Supreme Courts.

"There is peace and tranquility in Belarus. Pardon my indiscretion, but that is the authorities' main achievement," said Lukashenko as he cast his ballot.

In reality, Belarus was as divided as ever on the eve of the referendum, with pro- and anti-Lukashenko followers on the one hand, the capital versus the provinces on another; even the youth against the pensioners were split as groups. The president's proposal will become reality: there will now be no elections to the lower house of government. The deputies will have to appoint or elect their successors on their own (the procedure has yet to be determined), with the approval of the president himself. Of course the cutbacks will help parliament get rid of the opposition, which in the past comprised the majority in the Supreme Soviet. Lukashenko has announced that the backbone of the legislative authorities is already there – the so-called assembly of deputies, consisting of over 70 deputies who are actively conducting Lukashenko's policies. "Based on this sound part of the Supreme Soviet I will form a small bicameral parliament," the president promised. And he can threaten to dissolve Parliament if it doesn't form a lower house within a month.

### Power

The resignation of the prime minister, Mikhail Chigir, who set out economic and political demands in a letter to the president, including a demand that he cancel the referendum, laid bare the rifts within Lukashenko's team itself. Chigir is a man who apparently lacks ambition, who dissociates himself from politics, and who never openly opposed Lukashenko. The prime minister insisted that more decisive steps be taken to reform the economy and carried out succesful damage limitation of the president's rash, populist decrees, by giving them a slightly more civilized form. Chigir left quietly, leaving a very small number of truly dedicated followers and people able to have much influence on the runaway leader.

The president's team isn't supposed to engage in criticism. But Lukashenko isn't prone to trusting his entourage, which is known to have few reservations about bad mouthing the leader behind his back: The team was abandoned by those who did not agree with plans for a command economy or Lukashenko's rejection of democratic principles. Officers Victor Sheiman, the chairman of the Security Council, and Vladimir Zametalin, deputy chief of staff for ideological issues, boast the most influence on the president. Sources say the president starts his day by listening to these people report on how bad things are in the country.

This is quite something. And few will be surprised to hear that of all the parties available, Lukashenko is only supported by the Belarusian chapter of Zhirinovsky's Liberal Democratic Party. He therefore has to rely heavily on government force, as opposed to civil law and order bodies, in his quest for support. The population of Belarus is 10 million, 85,000 of whom are in the armed forces and the Interior Ministry plus the internal troops number some 120,000.

"An OMON [special police] sergeant makes as much as an army general. The president knows that he won't be able to rely on the army, which began becoming impoverished and rundown following the scandalous resignation of the defense minister, Leonid Maltsev. It costs relatively little to support the police – a shield, a club and good porridge," says former Defense Minister Pavel Kozlovsky.

But in reality, Lukashenko trusts neither the army, the KGB, nor even the country's special forces; he trusts instead his personal security guards, who number 250-300.

**Survey**

**Do you know what's been going on in Belarus? Who's right – President Lukashenko, or the Belarusian parliament?**

| | |
|---|---|
| Lukashenko is right | 5.5 |
| Parliament is right | 5.5 |
| Both are right | 14.6 |
| Neither are right | 12 |
| Don't know | 62.4 |
| This is the first I've heard of it | 0 |

*This poll of 550 Moscow residents was commissioned by MN from Mnenye (Opinion), which conducted a telephone survey on November 23-24. Figures in percent.*

### Geopolitics

The West is hardly likely to acknowledge the legitimacy of the drawn-out, 15-day voting in the Belarusian referendum, which was held in violation of European norms, in defiance of Parliament and the Constitutional Court, with one-sided press promotion, and which turned into an information war with a mute opposition. The U.S. State Department spoke out against it on more than one occasion, and not a single international organization sent observers to Minsk – the delegation from the European Parliament was not allowed to set foot in the ballot stations on voting day, nor were Belarusian deputies or observers from the Belarusian Popular Front.

The Belarusian "integrator" isn't concerned about the opinions of the West, although the Foreign Ministry persistently advised the Security Council to reject the referendum, since it might well threaten the republic with isolation – most of Belarus' neighbors also spoke out in favor of parliamentarism.

### Electorate

The opposition, which was represented by the Supreme Soviet, politicians, residents of Minsk, and the youth of Belarus, feels that the president needed to consolidate his authority not for the sake of economic stabilization, or even for the integrity of the Slavic people; he needed it to take control of finances. According to experts, in 1995 the president re-allocated 15 trillion Belarusian rubles, ($15 billion), without the approval of Parliament. According to independent experts, the president's administration is a closed, uncontrollable system, whose income ranks right up there with budget revenues. The administration placed the most profitable branches and enterprises, as well as the real estate leasing company, under its own jurisdiction. Not once was anyone from the audit commission or the Supreme Soviet allowed to run a check on this structure, which is otherwise known as the presidential fund.

"We took power, and we're not going to give it to anyone!" is what Lukashenko cries, hysterically, to his enamored electorate at demonstrations, before whisking away in his Mercedes.

On referendum day, snow fell for the first time in Belarus. Perhaps this is a hint that political winter has arrived in the republic. And what's in store for the country now? A five-year search for its own path, and social experimentation by a former army political instructor and director of a state collective farm.

# Lukashenko barred from Chernobyl

*KIEV (AP)* – Ukraine has turned down Belarusian President Alexander Lukashenko's request to visit the Chernobyl nuclear power plant, an official said Tuesday Nov. 19.

"Ukraine hasn't found any grounds to satisfy Belarus' request for a visit by President Alexander Lukashenko to the Chernobyl nuclear plant," government spokesman Yury Sergeyev said.

He refused to comment further.

A Belarusian consul to Ukraine, Vladimir Slesar, declined to comment on the Ukrainian decision.

Meanwhile, Sergeyev said that Ukraine was "worried by certain tendencies" in Belarus in recent days, a reference to Lukashenko's increasingly tense standoff with parliament.

"The Ukrainian Rada (parliament) is deeply concerned" about events in Belarus, a statement by parliament said.

The parliament maintained, however, that the matter was an internal affair for Belarus.

# Родная зямля — крыніца яго творчасці

З першых твораў і да апошняга напісанага радка Якуб Колас не пакідаў цікавасці да скарбаў вуснай народнай творчасці. Знаёмству і захапленню фальклорам з ранняга дзяцінства спрыялі ўмовы жыцця бацькоў. Пачутае і ўбачанае ў дзяцінстве пакінула глыбокі след у дзіцячым сэрцы, аб чым красамоўна сказаў ён у паэме «Новая зямля»:

*Таксама вечар свае бавы*
*Нясе з сабой не менш цікавы*
*І асабліва перад святам,*
*Калі, бывала, дзядзька з татам,*
*А з імі часам гэтаксама*
*Язык развяжа свой і мама.*

*Ужо на пачатку сваёй творчай дзейнасці Якуб Колас звяртаўся да фальклорных крыніц, да скарбаў і ўзораў гаворкі, якая захоўвала народную мудрасць, дасціпнасць і вобразнасць слова. «Мы павінны мець мову прыгожую, гучную, простую, але гнуткую і выразную», — не раз падкрэсліваў паэт і настойліва раіў сваім калегам-пісьменнікам: «Прыслухоўвайцеся да народнай гутаркі, запісвайце трапныя выразы, параўнанні, прыказкі».*

Аналізуючы раннія творы Якуба Коласа, можна адзначыць, што спадчына Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча была для яго першым узорам творчага выкарыстання багаццяў вуснай народнай творчасці. Школу сваіх папярэднікаў паэт не проста выкарыстоўваў, а, дзякуючы ўласнаму таленту, значна абагаціў. Таму няма нічога дзіўнага, што творчасць Якуба Коласа з'яўляецца для зацікаўленых даследчыкаў выдатнай крыніцай для вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа.

У сваіх дакастрычніцкіх апавяданнях Я. Колас надаваў надзвычай вялікую ўвагу побыту вясковых жыхароў «роднага кута». Ён шырока ўводзіць у свае творы лексіку народных гаворак, што дазволіла яму стварыць тыповыя характары сялян, вылучыць адметнасці нацыянальнага светапогляду і мыслення.

Этнаграфічнай прыгажосцю вылучаецца апавяданне «Калядны вечар», у якім Якуб Колас змог вельмі дакладна абмалёўваць багаты духоўны свет сялян, чысціню іх маральных прынцыпаў і адначасова вялікую павагу беларусаў да народных традыцый. У аснову сюжэта гэтага апавядання пакладзены бытавыя падзеі таго часу: сям'я лесніка Тараса рыхтуецца да аднаго з самых улюбёных свят — каляднага вечара, — «якога так нецярпліва чакаюць дзеці, які так многа прыносіць радаснага ў шэрае жыццё простага чалавека».

На Стаўпеччыне здаўна шырока адзначаліся (а дзе-нідзе адзначаюцца і сёння) Каляды. Людзі гатуюць у такі дзень урачыстую вячэру, а ўвечары па хатах ходзяць калядоўшчыкі са звяздою і спяваюць песні, у якіх жадаюць усяго самага найлепшага гаспадарам. Аднак найбольшая ўвага і пашана ў калядны вечар надаецца куцці — кашы, прыгатаванай абавязкова з цэлых ячных зярнят, якая яшчэ й з'яўляецца сімвалам несмяротнасці. Таму й ставяць яе на покуце— самым пачэсным месцы ў хаце. «У покуце на сене ўжо важна стаяў гаршчок з куццёй», — адзначае Якуб Колас у згаданым творы.

У «Калядным вечары» пісьменніка імкнецца не толькі пералічыць святочныя стравы, але і паказаць, у якім парадку яны падаваліся на стол. Робіць гэта Колас пры дапамозе гутаркі двух братоў Петруся і Міхася. «Ты толькі, Міхась, не накідайся адразу на яду, — перасцерагаў таго Пятрусь, — бо мама шторазь будзе даваць смачнейшую страву. Я летась падашукаўся. Паставілі верашчаку, дык я давай хлястаць. Потым даюць квас, ды такі смачны. Я — за квас. Далей, смажаная рыба... Вячэра яшчэ ў палавіне, а мяне ўжо хоць на пупе круці».

Адным з самых цікавых рытуалаў у калядны вечар была варажба. На Каляды пад абрус на стале звычайна клалі сена. У час варажбы яго выцягвалі і па даўжыні травінак меркавалі, якім налета будзе лён. Былі і іншыя спосабы варажбы. Напрыклад, калі калядным вечарам неба зорнае, то ў новым годзе будзе добры ўраджай ягад і грыбоў; калі снег і мяцеліца — добра будуць раіцца пчолы...

У сваім апавяданні Якуб Колас таксама звяртаецца да гэтага жанру вуснай творчасці. Зноў жа дыялог братоў Міхася і Пятруся ў час падрыхтоўкі да варажбы сведчыць аб надзённых клопатах сялянскіх дзяцей:

«— А назаўтра мы будзем шукаць на стале зярняты?

— А як жа! І якіх зярнят больш будзе, тое збожжа налета лепш уродзіцца».

У ранніх апавяданнях Якуб Колас імкнуўся таксама намаляваць шырокую панараму жыцця простага беларускага селяніна. Для ўвасаблення нацыянальнага каларыту аўтар выкарыстоўваў народны дасціпны гумар, сакавітую мову, насычаную арыгінальнымі параўнаннямі, прыказкамі і прымаўкамі. Вельмі яскрава гэта праяўляецца ў палітычна-сатырычным памфлеце «Слабода». У ім для маляўнічага апісання стрэльбы, вакол якой разгортваюцца падзеі, аўтар, на нашу думку, даволі ўдала выкарыстаў народны дасціпны выраз: «На рулі грязі на цэлы палец». На Стаўпеччыне і зараз можна пачуць такое параўнанне, якое, як асабіста нам даводзілася чуць, выкарыстоўваецца для характарыстыкі нядбайнай гаспадыні: «У яе ж у хаце грязі на цэлы палец. Хутка і змеі пазаводзяцца». Выкарыстоўвае ж пісьменнік народныя выразы з трапнымі моўнымі дэталямі дзеля таго, каб надаць мастацкаму вобразу гістарычную аснову.



Для выкрыцця абмежаванасці служак, якія клапоцяцца аб «паслушэнстве» і «палітычнай надзейнасці» сялянства, Якуб Колас з саркастычным пафасам падкрэслівае гістарычнае паходжанне ўсё той жа стрэльбы, сцвярджаючы, што «можа яшчэ швед згубіў яе тут трыста гадоў таму назад». І гэтаму моўнаму выразу мы можам знайсці пацвярджэнне ў фальклоры роднай пісьменніку Стаўпеччыны. Шведскімі магіламі называюць жыхары Наднямоння мясцовыя курганы і, здараецца, проста ўзвышшы. Аднак у гэтых назвах схаваны ў розных інтэрпрэтацыях паданні пра пахаванні шведскіх салдат, нібыта загінуўшых у той ці іншай мясцовасці ў час Паўночнай вайны. Прынамсі, у вёсцы Жукаў Барок так завуць пясчаны пагорак непадалёк ад мясцовага млына. Дарэчы, гэтаму тут ёсць, скажам так, рэальнае пацвярджэнне, — як расказваюць жукавабароцкія старажылы, гадоў сорак ці нават пяцьдзесят таму назад, калі падымаўся моцны вецер, ён выдзімаў там чалавечыя косці...

У ранніх апавяданнях Якуба Коласа даволі часта сустракаюцца параўнанні, якія ў кожнай вёсцы маюць свае, уласцівыя толькі гэтай мясцовасці, рысы. Напрыклад, «брамка з сабачку нябожчыцы пані Каліноўскай» (апавяданне «Слабода»). Асабіста нам пакуль не ўдалося высветліць этымалогію гэтага словазлучэння, але, няма сумнення, гэта — менавіта народнае выслоўе, якое пісьменнік падчэрпнуў, магчыма, і ад сваіх землякоў мікалаеўцаў.

Для найбольш дакладнай перадачы духоўнага свету герояў сваіх твораў, правобразам якіх сталі многія рэальныя людзі, Якуб Колас звяртаўся і да іншых жанраў вуснай народнай творчасці, якія і па сённяшні дзень шырока бытуюць на яго радзіме. Вельмі выразна гэта відаць якраз на прыкладзе яго ранніх апавяданняў, якія перасыпаны прыказкамі і прымаўкамі, параўнаннямі і прыпеўкамі. У іх ён таксама звяртаецца і да паданняў, праклёнаў, апісае абрады і звычаі — насельнікаў Наднёманскага краю.

Такім чынам, падсумоўваючы сказанае, зазначым, што Якуб Колас як сваімі раннімі творамі, так, напэўна, і амаль усёй творчасцю надзвычай блізкі да зямлі, якая яго ўзгадавала, яе традыцый і народнай фальклорнай спадчыны.

**Людміла КАМАРОЎСКАЯ,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея**
**Якуба Коласа.**

# КОЛЬКІ СЛОЎ НА ДАЛЬНЮЮ ДАРОГУ

"ЛіМ"

Ты за капіталізм ці за сацыялізм? Здавалася б, рытарычнае пытанне, якое патанула ў сённяшніх палітычных баталіях, аднак пэўнага адказу на яго не адбылося за ўсе 10 год "галоснасці" і яе наступстваў. Адны спрабуюць вынайсці гібрыд "рынкавага бальшавізму", другія шукаюць сацыялізм у скандынаўскіх краінах, трэція — абвяшчаюць савецкі лад крыху скрыўленым, з "дэфармаваным тварам", але сацыялізмам, які ні ў якім разе не перакрэслівае камуністычную дактрыну і магчымасць новага, больш "чыстага" эксперыменту. Па іх меркаванні з таго вопыту трэба толькі выкінуць некаторых ухіляістаў-перагібшчыкаў (па густу — Гарбачова, Хрушчова, Сталіна), і ўсё пойдзе на лад, а справа Маркса—Леніна—Брэжнева заблішчыць, як новая патэльня. Але калі да "выкідвання" падысці прынцыпова, то прыйдзецца або выкінуць усіх, або не чапаць нікога, бо ідэалогія і практыка камунізму — такі непарыўны ланцужок, што кожнае звяно яго лагічна працягвае папярэдняе. Не выключэнне тут і блізняты-класікі, Маркс з Энгельсам, філасофія якіх у пэўнай меры абумовіла далейшы ход падзей.

Першы памылковы (ці нават заганны) пастулат марксізму — ідэя аб класавай барацьбе як аб галоўным рухавіку прагрэсу і змены гістарычных фармацый. Па логіцы Маркса, рабаўладальніцкі лад павінны былі знішчыць рабы, феадальны — сяляне, а буржуазны — пралетарыі. Але відавочна, што гэта не так. Больш таго — кожная з гэтых сацыяльных пар не можа існаваць без свайго антаганіста, у тым ліку і класічны пралетарый, які пасля ліквідацыі буржуазіі з "баявога атрада" ператвараецца ў шэрую бясправную масу рабоў, што паслухмяна будуюць вавілонскую вежу камунізму. Сапраўдны ж гістарычны прагрэс адбываецца не ў выніку "перамогі" аднаго з антаганістычных сіл, а пры нараджэнні новай, трэцяй сілы, якая нясе іншыя ідэі, праблемы, супярэчнасці.

Другая памылка, што выцякае з першай, палягае ў тым, што марксізм прыняў за аксіёму прынцып існавання грамадства як суровай барацьбы, як бязлітасны вайны на вынішчэнне ворагаў. Ён і не дапускаў магчымасці грамадзянскай згоды, узаемавыгаднага класавага супрацоўніцтва, шляху сацыяльнай эвалюцыі без татальных гістарычных катаклізмаў. Камунізм адпачатку сцвярдзіў маральную перавагу адной часткі грамадства (пралетарыяў) над усімі іншымі, загадзя выдаўшы індульгенцыю на знішчэнне ўсіх "эксплуататараў". Гэты сакральны прынцып паднаўляўся і творча пераасэнсоўваўся на працягу ўсяго камуністычнага будаўніцтва. На практыцы аказалася, што знішчыць толькі "буржуяў" недастаткова, туды ж трэба адправіць і чынавенства, і духавенства, і кулакоў, і былых сяброў-апартуністаў, і шмат іншых "чуждых элементов". Апафеозам прынцыпу "камуністычнай барацьбы" стаў час, калі ліквідацыі падлягаў кожны, хто думаў не ва унісон з "генеральнай лініяй" ці самім "Генеральным Камуністам". Шлях вельмі заканамерны, дыялектычна наканаваны і... тупіковы, бо вядзе да пастаяннага "адсячэння" лепшых, найбольш здольных і рухомых частак грамадства, да росквіту люмпенскай, ураўнілаўскай псіхалогіі і панавання прымітыўных сацыяльных інстынктаў.

Такім чынам, камуністычная дактрына, нават ва ўмовах велізарных людскіх і матэрыяльных рэсурсаў Расійскай імперыі, даказала сваю самаедскую сутнасць, няздольнасць да самаразвіцця і гістарычнага прагрэсу. Відавочна, што любыя спробы ўзнавіць яе (у тым ліку і ў выглядзе калгаснага беларускага аўтарытарызму) асуджаны на правал. Для Беларусі, нягледзячы на цяжар постсавецкай спадчыны і дэфармацыі нацыянальнай свядомасці, патрэбна іншая мадэль развіцця, якую я назваў бы ідэяй салідарнага грамадства".

Любое грамадства будзе жыццястойкім і эфектыўным, калі яго нешта яднае, салідарызуе. З аднаго боку, гэта могуць быць гістарычныя карані, традыцыі ці міфы, а з другога — магутная вера, футурыстычная ідэя ці нават прыгожая утопія. Як чалавек падобны струне, якая гучыць толькі напятай паміж мінулым і будучым, так і грамадства — ажывае і расце, маючы добрыя падмуркі і ясныя планы.

Першая ўмова "салідарнага грамадства" — пакінуць камуністычную тэрміналогію і бальшавіцкую сацыяльную практыку. Бо класічны пралетарый у нас знік у 20-я, сапраўдны селянін — у 30-я гады, і цяпер мы маем большую патрэбу ў прагматыстах, менеджэрах і камп'ютэрах, чым у качагарах, даярках і дыктатуры пралетарыяту. Ёсць немалая патрэба і ў сваіх "капіталістах", бо лепшых арганізатараў эканамічнага прагрэсу, чым бізнесмены, гісторыя пакуль не вынайшла. Старыя ж падзелы на "класы" і "праслойкі", што мелі мэтай стравіць і знішчыць некаторыя з іх, — таксама бальшавіцкі архаізм. Галоўным сёння мусіць быць падзел на асобнага чалавека, які роўны перад законам незалежна ад паходжання і прафесіі.

Для салідарнага грамадства карысныя і прыдатныя ўсе людзі, але ніхто не мае права ўзвышаць ці абсалютызаваць сваю ролю. Як адзінаму арганізму патрэбны ногі і рукі, сэрца і галава, так і грамадству патрэбны сяляне і рабочыя, прадпрымальнікі і творцы. І не дай бог зноў пачнецца адсячэнне "непатрэбных" ці "чужых" частак. Такое грамадства ніколі не стане ні эфектыўным, ні справядлівым. Бо сапраўдная справядлівасць не тады, калі "хоць па кроплі, але ўсім", а тады, калі кожнаму як мага больш, хай і не пароўну. Гэта становіцца магчымым толькі ў эфектыўнай, дынамічна развітой супольнасці, да якой ніяк не аднясеш закасцянелую дагматычную сістэму сацыялізму.

Яшчэ адна якасць "салідарнага грамадства" — жыццястойкасць. Яна забяспечваецца "вектарам прагрэсу" — сацыяльнай арыентацыяй на больш працавітых, здольных, таленавітых, скіраванасцю агульнага інтарэсу да вышэйшых матэрыяльных і духоўных стандартаў. Імкненне да лепшага, больш яснага і дасканалага, магчыма не толькі дзякуючы канкурэнцыі, але і "дыфузіі" між рознымі сацыяльнымі групамі, адсутнасці жорсткіх каставых рамак і перашкод. Менавіта сучасныя заходнія мадэлі народаўладдзя бліжэй стаяць да такога ідэалу, а праваыя дэмакратычныя краіны дэманструюць эфектыўнасць, жыццястойкасць і дынамізм.

Вядома, прынцыпы "салідарнага грамадства" здаюцца сёння недасягальнай утопіяй на фоне нашай палітычнай канфрантацыі ды сацыяльнага развалу. На Захадзе, дзе да гэтых прынцыпаў ішлі многія дзесяцігоддзі, і то няма абсалютнай гармоніі (бо "канчатковая" ідылія існуе хіба што ў казках). Аднак там эвалюцыйна склаўся так званы "сярэдні клас", які мацуе-"салідарызуе" ўсё грамадства, з'яўляецца яго эканамічным і духоўным балансірам, што ўраўнаважвае рэзкія "рэвалюцыйныя" штуршкі. У нас жа соцыум вельмі палярны, бадай, нават адналюсны, бо "сярэдні клас" (не кажучы ўжо пра эліту) у шмат разоў мізэрнейшы за масы "пакрыўджаных і нішчых", і скрануць гэтую цёмную сілу ў бок стваральнай дзейнасці можна, бадай, толькі ідэалагічнымі сродкамі — праз свабоду інфармацыі, адукацыю, асвету і г. д. Такі, відаць, характар беларусаў, што матэрыяльныя (ці "шкурніцкія") інтарэсы ідуць пасля палітычных, інтэлектуальных, духоўных. Нацыя адвечных рамантыкаў, самотных паэтаў і "бурапенных" рэтраградаў. І ўсё ж эканоміка возьме сваё, і

менавіта яна будзе вызначальным фактарам у структурызацыі нашага грамадства. Калі эканоміка застанецца мафіёзна-дзяржаўнай, посткамуністычнай, то і грамадства будзе крымінальна-таталітарным, калі ж яна стане цывілізаванай, рынкавай, то з'явяцца ўмовы для грамадзянскай салідарнасці і згоды. А пакуль мы спрабуем адправіцца ў шлях, не ведаючы мэты свайго плавання, не асвоіўшы азбукі кіравання і навігацыі. Куды вынесе хваля, да якога берага прыб'е гэтых небаракбеларусаў — невядома нікому...

**Васіль АЎРАМЕНКА**
*г. Магілёў*




# СТВОРАНЫ БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ АБАРОНЫ ДЭМАКРАТЫІ

Пазаўчора, 27 лістапада, у афіцыйных газетах была ўжо надрукаваная прэзідэнцкая канстытуцыя.

У гэты ж дзень у памяшканні Дома літаратара адбыўся Кангрэс у абарону дэмакратыі, у якім удзельнічалі палітычныя партыі — прадстаўнікі "круглага стала". У склад арганізацыйнай рады ўвайшлі дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія засталіся на пазіцыях законнасці, сябры прафсаюзаў, партыяў, рухаў і грамадскія дзеячы.

Са словам выступілі Сямён Шарэцкі, Пётр Краўчанка, Юры Хадыка (БНФ), Аляксандр Паўлаў (Аграрная партыя), Станіслаў Багданкевіч (АГП), Мікола Статкевіч (БСДП "Народная Грамада") і іншыя вядомыя палітыкі.

Падчас працы Кангрэса быў створаны Беларускі камітэт абароны дэмакратыі, старшынёй якога стаў спікер парламента С. Шарэцкі. Намеснікамі старшыні выбраны А. Дабравольскі, М. Статкевіч, Ю. Хадыка, адно месца было пакінутае прадстаўніку Партыі камуністаў (хутчэй за ўсё, віцэ-спікеру В. Новікаву).

Галоўная мэта Камітэта абароны дэмакратыі — "захаванне ў поўным аб'ёме на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі 1994 года.

**Аляксей ШЭІН**





STATE OF ILLINOIS
OFFICE OF THE GOVERNOR
CHICAGO 60601

JIM EDGAR
GOVERNOR

December 28, 1996

Nikolas Prusky
Editor
Bielarusian Digest
1086 Forest Hills Avenue, S.E.
Grand Rapids, Michigan 49546

Dear Mr. Prusky:

As Governor of the State of Illinois, it is my pleasure to congratulate you on the 5th anniversary of your publication, Bielarusian Digest.

Bielarusian Digest has provided countless Bielarusian Americans with an excellent source of national and community news. The ethnic media is a vital and integral part of our success in understanding different cultures. You can take pride in the many accomplishments that your publication has achieved.

On behalf of the citizens of Illinois, please accept my best wishes for an enjoyable anniversary and much continued success.

Best regards,

Jim Edgar

Jim Edgar
GOVERNOR

# РЭВАЛЮЦЫЯ ЦІ КАТАСТРОФА?

**ЛіМ.**

У Рэспубліцы Беларусь 7 лістапада афіцыйна застаецца чырвоным днём календара. Пачатак таму, што мы перажылі і як жывём зараз, быў пакладзены менавіта тым днём, калі 79 гадоў назад да ўлады ў Расіі прыйшлі бальшавікі. Усе беды ў краіне, у якую ўваходзіла і наша Беларусь, прыйшлі ад Леніна і ленінізму. І слабасць сённяшняй дэмакратыі ў тым, што яна арганічна звязана з камунізмам.

Так, і раней адбываліся рэвалюцыі, і сёння працягваюцца перавароты і рэвалюцыі. Абедзве рэвалюцыі 1917 года, так ці іначай, вытлумачваюцца вайною, рэзрухам, беззямеллем сялян. Але ёсць рэвалюцыя і ёсць катастрофа. Рэвалюцыя вызваляе сілы, неабходныя для развіцця грамадства, а катастрофа знішчае гэтыя сілы альбо перапыняе іх ходу. Пасля рэвалюцыі ідзе развіццё, пасля катастрофы трацяцца гады на ліквідацыю яе наступстваў, як, напрыклад, пасля Чарнобыля.

У кастрычніку 1917 года многія адмоўныя акалічнасці супалі, і на звычайную нармальную рэвалюцыю (лютаўскую), якая была спароджана сапраўднымі, аб'ектыўнымі прычынамі, наклалася вучэнне марксізму-ленінізму, што і надало ёй характар катастрофы.

Гэтую падзею бальшавікі пазней назвалі "вялікай сацыялістычнай рэвалюцыяй". Галоўны яе герой — Ленін — у першы дзень свайго кіравання заявіў: "Жыццё — лепшы настаўнік, і яно пакажа, чыя праўда..." Паглядзім, што ж пра гэта гаворыць "лепшы настаўнік".

Пра ўсялякую падзею мяркуюць па яе выніках. У 1913 годзе Расія займала па розных паказчыках жыццёвага ўзроўню 5—13 месцы. А "итоги большого пути" выглядаюць гэтак: па вытворчасці валавога прадукта на душу насельніцтва ў 1985 годзе СССР займаў 68-ае месца ў свеце, па ўзроўні асабістага спажывання — 77-ае. У наступныя гады становішча катастрафічна пагоршылася, і мы скаціліся на дзесяткі прыступак ніжэй. І ўсё гэта з прычыны "вялікай" падзеі, што здарылася 79 гадоў назад.

Галоўнае дасягненне бальшавікоў, якія гвалтам захапілі і ўтрымлівалі ўладу, — гэта, безумоўна, адкультываны "гома саветыкус", ці, прасцей кажучы, савок. Тыповымі прадстаўнікамі гэтага віду з'яўляюцца лідэры сённяшніх камуністаў, тыя, што і сёння абяшчаюць сацыялістычны выбар. Яны ўсё гэтак жа, так нічому і не навучыўшыся, абяцаюць нам шчаслівую краіну абноўленага сацыялізму — гэта значыць, новую трагедыю. З той хіба розніцай, што тыя, ранейшыя ідэолагі, і самі падманваліся: не ведалі, што будзе з іх думак, прамоў і артыкулаў. А гэтыя, сённяшнія, ведаюць жа! Спакуса — грэх, тыя, што спакусіліся — саграшылі. Але якім словам назваць свядомых сацыяльных спакуснікаў? У свой час Ф. Дастаеўскі назваў іх д'ябламі ("бесамі"). Ці дачакаемся мы сумленнага адказу ад усёй гэтай прававерная д'ябальскай наменклатуры? Розуму не дабраць, чаму нават у перыяд галоснасці адукаваныя і разумныя (быццам бы) людзі не могуць зразумець таго, што даўно зразумелі менш адукаваныя і нават старэйшыя па ўзросце іх калегі.

Логіцы не паддаецца і назва "Кастрычніцкая". Тут цвёрдакаменныя марксісты праявілі непаслядоўнасць, не перайменаваўшы сваю рэвалюцыю ў сувязі са зменамі ў календары. Так і святкуюць, на здзіўленне ўсяго свету, у слотным і халодным лістападзе сваю кастрычніцкую рэвалюцыю.

У выніку "сацыялістычнай" рэвалюцыі бальшавікі ўмудрыліся пабудаваць такое грамадства, дакладную назву якому самі настойліва шукалі і аніяк не маглі знайсці. То наш "сацыялізм" здаваўся ім "сталым", то "развітым". І перамагаў спачатку "поўнасцю", а пасля "канчаткова". Аднак яго галеча і ўбогасць былі такія відавочныя, што будаўнікі-стваральнікі аніяк не ў стане вызначыць, наколькі гэты сацыялізм... сацыялістычны. І што, урэшце, сацыялістычнае ў грамадстве, дзе ўзровень эксплуатацыі амаль у тры разы вышэйшы, чым у любой сярэднекапіталістычнай краіне. Аднак нястомныя "прарабы" перабудовы адкрылі ў сабе другое дыханне і цвёрда абяцалі перабудаваць гэтую "рэч у сабе" ў сацыялізм дэмакратычны. Чым гэта скончылася, мы ведаем: путчам ГКЧП у жніўні 1991 года.

Насуперак здароваму сэнсу і неабвержным фактам камуністы-дагматыкі з упартасцю, вартай лепшага прымянення, працягваюць нахабна сцвярджаць, што бальшавікі ўратавалі Расію ў 1917 годзе, далі мір народам, зямлю — сялянам, фабрыкі — рабочым і што ў нас быў сацыялізм. Яны "плачуць" па чалавецтве, якое шмат "страціла" са стратай сацыялізму ў СССР. У якасці прыкладу могуць прыводзіцца арабскія краіны, якія прадаюць сваю нафту і на гэтыя грошы ўтрымліваюць амерыканскія войскі. Але маўчаць пра тое, што на гэтыя грошы яны на месцы пустыні пабудавалі за кароткі час квітнеючыя сучасныя гарады і першакласныя дарогі, што гэтыя ўчарашнія вандроўнікі сёння жывуць у такім сацыялізме, які нам і не сніўся. Войскі ж ім патрэбны для абароны ад заразы бальшавізму — сусветнай камуністычнай рэвалюцыі.

І вось зноў навая́ўленыя неакамуністы ўсіх масцей, адценняў і назваў вельмі спадзяюцца, што за наступныя 79 гадоў яны ўправяцца. Наш народ наўздзіў даверлівы, а галоўнае — цярплівы: як упрогся ў 1917 годзе ў ярмо "сацыялістычнага выбару", так і працягвае змагацца за "камуністычную перспектыву" да апошняга чалавека. "А як жа інакш? Навошта ж тады рэвалюцыя рабілася?" — гавораць яны.

А ці была гэта "рэвалюцыя"? Паглядзім проста ў вочы нашай гісторыі. 24 і 25 кастрычніка (па старым стылі) у Пецярбурзе было спакойна, пра аніякае паўстанне ў газетах не паведамлялася. Толькі раніцай 26 кастрычніка жыхары даведаліся, што часовы ўрад арыштаваны. Група змоўшчыкаў, натхнёная Леніным і кіруемая Троцкім, здолела падбухторыць частку салдат і захапіць Зімні палац. Пры гэтым былі забіты шэсць салдат і ніводнага рабочага, ніводнага матроса. Гэты факт красамоўна сведчыць, што 25 кастрычніка ў Пецярбурзе не было ніякай рэвалюцыі, а толькі тыповы пераварот з удзелам салдат. Ды і самі бальшавікі гэтую падзею ажно да 1927 года называлі менавіта пераваротам і толькі пасля ўжо ўзвялі яе ў ранг паўстання і нават "вялікай рэвалюцыі".

Абаронцы марксізму сцвярджаюць, што тэорыя Маркса была геніяльнай, але яе няправільна зразумелі. Аднак "Капітал" дае адназначны адказ: прадпрымальнікі — лішняе звяно на вытворчасці і можна абысціся без яго. На самай справе прадпрымальнік працуе: зберагае, памнажае і перамяшчае капітал. Кадры прадпрымальнікаў вырашаюць усё. Якія ж наступствы ажыццяўлення ідэй Маркса, асабліва рэльефна відаць на прыкладзе шматпакутнай краіны — былога СССР.

Спакуса, калі ёй паддацца, вядзе ў пастку. А ў пастцы логікі не шукайце. Правіла абыходжання з пасткай адно — не трапляйся ў яе. Цяпер дык мы ведаем аб знішчэнні лепшай часткі сялян. Шмат пішуць аб тым, як знішчалі (у лепшым выпадку — высылалі) філасофаў і ўвесь цвет інтэлігенцыі.

Аднак мала пішуць аб вялікім няшчасці: быў выгнаны ці вынішчаны ўвесь цвет прадпрымальніцтва. Краіна засталася без заводчыкаў (якое добрае слова — заводчык), без тых надзвычай рэдкіх і таленавітых людзей, якія адны толькі і ўмелі заводзіць і з толкам весці прамысловую работу.

Гэта была грамадская лобатамія. Прамысловы механізм велізарнай краіны застаўся без галавы. Ну і сэканоміла краіна на капіталістах! Дагэтуль сырам у масле качаемся на гэтых грошыкі! Вось у чым адрозненне капіталізму ад сацыялізму: капіталістычны прадпрымальнік рызыкуе сваімі грашыма, а сацыялістычны — чужымі. Усё астатняе толькі вынік і ў першую чаргу — наша сённяшняе жыццё.

Усе нашы люмпен-капіталісты, якія засядалі ў палітбюро і сакратарыяце, размяркоўвалі народныя грошы па сваім разуменні і анічым не рызыкуючы. Ніхто з іх за жыццё капейкі сам не выгадаў, а іншыя і не зарабілі. Але распараджаліся чужымі мільярдамі, як хацелі. Калі капіталіст, рызыкуючы, памыляецца, дык ягоныя грошы не прападаюць, а пераходзяць да другога. Але ж у народнай гаспадарцы яны застаюцца! А ў нашым прыкладзе сродкі знікалі рэальна, фізічна. Знішчаліся. Ішлі ў ахвяру безгаспадарчасці.

Эканоміка без капіталістаў (прадпрымальнікаў) не працавала. Яе замянілі палітыкай. Але ж палітыкай людзей на накорміш і рот ім не заткнеш. Палітыку замянілі тэрорам, знішчыўшы дзесяткі мільёнаў думаючых людзей. Усё стала пеклам. Страты трэба было апраўдаць, сумненні — задушыць, і пайшло, пакацілася. Услед за эканомікай — права, за правам — рэлігія, філасофія, літаратура, культура, школа, мараль... Усё скрэжылася, перакруцілася, ашалела. І М. Горкі, які пачынаў са слоў: "Гаспадар той, хто працуе", скончыў лятучай фразай: "Калі вораг не здаецца — яго знішчаюць". Тут уся гісторыя сацыялізму.

Усё ў нашай краіне адбывалася і адбываецца так, як толькі і можа адбывацца пасля сацыялістычнай катастрофы. Маркс судзіў і вынес

Марыя ФІЛІПОВІЧ:

# СЛУХАЮ ДУШУ

## НА ЗАРАНКУ ЧАСУ

"Круг"

Гасподзь вырашыў даць чалавеку высокія боскія дары. Але ён ведаў, што калі іх аддаць так проста, чалавек ніколі не будзе цаніць іх. Адзін анёл сказаў: "Схавай іх на вяршыні высокай гары." Бог падумаў і вырашыў: "Не, людзі знойдуць іх, і зноў яны стануць звычайнасцю." Тады другі анёл прапанаваў: "Ці не схаваць дары на краі свету?" Бог адказаў: "Людзям давядзецца шмат вандраваць, але яны знойдуць іх, і зноў гэта стане здабыткам усіх. Схаваю я свае дары ўнутры кожнага чалавека. Многа шляхоў-дарог пройдзе ён, перш чым знойдзе іх у сабе." Такая прытча.

Паназірайце за маленькімі дзецьмі. Яны яшчэ не паспелі пагубляць тыя боскія дары, што атрымалі пры нараджэнні. Яны не ўмеюць ні хлусіць, ні крывадушнічаць, ні хітрыць. Ім невядомыя каварства і здрада. Яны даверлівыя, напоўненыя любоўю да людзей і ўсяго жывога. Яны праяўляюць чуласць і спагаду. Калі камусьці баліць, хтосьці плача побач з імі, яны таксама заплачуць. Яны ахвотна дзеляцца ўсім, што ў іх ёсць, калі да таго моманту мама ці бабуля не паспелі шапнуць, што самую смачную цукерку трэба ўсё ж пакідаць сабе.

Мудрацы гавораць: "Дзіця да трох гадоў -- гэта дзіця не Зямлі, гэта дзіця Космасу."

Я ўпэўнена: калі чалавек упершыню прыйшоў на Зямлю, ён прынёс з сабою велізарныя веды пра сусвет, пра Вышэйшыя Касмічныя Законы, згодна з якімі ўсё ў Сусвеце жыве і развіваецца. Пакуль у чалавека не прытупілася адчувальнасць да духоўнага свету, ён чэрпаў гэтыя веды з невычэрпнай духоўнай крыніцы, якой людзі далі назву – Бог.

Задуманы быў чалавек як сутворца. Гасподзь даў яму часцінку сваёй прыроды, названую Духам, увасобіў гэту часцінку ў фізічнае цела, паколькі чалавеку прызначалася жыць і тварыць у свеце матэрыяльным, змяняючы Зямлю, ператвараючы яе ў квітнеючы сад.

Калі чалавек здрадзіў свайму прызначэнню? Ці не пра гэта грэхападзенне гаворыцца ў Біблії? Уключэнне розуму, які мае чыста зямное паходжанне, павярнула яго да зямных, матэрыяльных інтарэсаў. Нават магчыма, што першая думка аб асабістай матэрыяльнай выгадзе, што прыйшла на змену высокаму духоўнаму парыву, падштурхнула яго на шлях, якім ён і прыйшоў да краю бездані. І трэба было дайсці да краю бездані, каб зразумець, што шлях тэхнагеннай эвалюцыі прывядзе чалавецтва не да росквіту, а да выраджэння.

Усе дасягненні навукі і тэхнікі былі накіраваны на тое, каб зрабіць зямное жыццё чалавека як мага камфортнейшым. Але ад гэтага не стаў ён шчаслівым. Чалавек пагарджаў сваім Духам, патураў усім жаданням цела -- і гэта прывяло да таго, што цела стала схільным да ўсіх хвароб. Пагоня за матэрыяльным дабрабытам была бессэнсоўнай; кожны, хто станавіўся на гэты шлях, рана ці позна пераконваўся, што ён не прывядзе да шчасця. У краінах, дзе высокі жыццёвы ўзровень (ЗША, Японія, Швецыя), самы высокі працэнт самазабойстваў.

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ ДАБРОТЫ

Яны такія жаданыя, гэтыя матэрыяльныя даброты. Мы не верым не толькі статыстыцы, але нават любімым тэлесерыялам, якія спрабуюць пераканаць нас, што і багатыя таксама плачуць. Нам здаецца, што ўжо мы дык змаглі б стаць шчаслівымі, каб займелі паболей грошай. А там, адчуўшы пад нагамі цвёрдую матэрыяльную базу, і пра духоўнае паклапаціліся б. І таму ўсе намаганні мы накіроўваем на дасягненне матэрыяльнага дабрабыту, нам хочацца забяспечыць сабе, як мы любім гаварыць, жыццё, вартае чалавека.

Ужо пры першай спробе падняцца на прыступку вышэй у дасягненні вызначанай мэты спатыкаемся на тым, што, аказваецца, у грамадстве, у якім мы жывём і хацелі б пайсці наперад, разлічваючы на свае чалавечыя якасці, гэтыя якасці не вельмі і патрэбныя. Раптам прыходзім да разумення, што па службовай лесвіцы можна падняцца значна хутчэй, абапіраючыся не на свае веды, прафесіяналізм, а калі ўдзельнічаеш у інтрыгах, уніжаешся, ліслівіш. Ураз высняецца, што для таго, каб ездзіць на добрай машыне, смачна есці і піць, трэба даць камусьці хабар, кагосьці падмануць, у кагосьці ўкрасці. Трэба здрадзіць сваім ідэалам, схлусіць, зрабіць подласць, абылгаць, каб зрабіць палітычную кар'еру і атрымаць уладу над людзьмі і ўсё тое ж права смачна есці і жыць з камфортам.

І калі, нарэшце, прайшоўшы праз усё гэта, хтосьці дабіваецца існавання, "дастойнага чалавека", аказваецца, што чалавечага ў ім засталося мала. Бядняк, які дзеля больш смачнага кавалка хлеба (чорны хлеб як міласціну яны цяпер не прымаюць) пераступае праз штосьці ў сабе і ідзе жабраваць на вуліцу; камерсант, які дзеля таго, каб праводзіць адпачынак на Багамскіх Астравах, пераступіўшы праз штосьці ў сабе, вядзе двайную бухгалтэрыю, хітруе, абманвае; міністр, які з карыслівай мэтай ставіць свой подпіс на дагаворы, ведаючы, што гэта прынясе страты нашай і без таго разкрадзенай краіне, -- усе яны ўчыняюць адно і тое ж злачынства, адзін і той жа грэх; дзеля асабістай матэрыяльнай выгады забіваюць у сабе тое, што з'яўляецца адбіткам боскіх якасцей у чалавеку, прысутнасць якіх і робіць яго чалавекам.

Магчыма, хтосьці з іх думае, што, зрабіўшы такі грэх, ён можа вымыць рукі і забыць пра гэта. Жабрак можа надзець добры касцюм, паехаць пагасцяваць у іншы горад -- і будзе думаць, што ўсе прымаюць яго за дастойнага чалавека. Камерсант на Багамскіх Астравах, жывучы ў шыкоўным нумары гатэля і грэючыся пад ласкавым сонейкам, можа лічыць, што ніхто не здагадваецца, якім шляхам зароблены яго грошы, -- і ўсе адносяцца да яго з павагай. І дзяржаўная асоба, красуючыся перад тэлекамерай ці выступаючы ў парламенцкіх дэбатах, гаворачы разумныя і пранікнёныя прамовы, магчыма, не сумняваецца, што яго прымаюць за таго, за каго ён сябе выдае. Не, не падазраюць яны, што на іх ужо стаіць асаблівае кляймо, -- і гэта кляймо бачаць усе. Чалавек не можа схаваць сваю сапраўдную сутнасць ні за прыгожае адзенне, ні за высокія словы, ні за шырокую ўсмешку. Сапраўдная сутнасць праяўляецца ва ўсім, гэта тыя рожкі, якія не схаваеш ні пад капелюшам, ні пад прычоскай. І чым чысцейшы чалавек сам, тым лягчэй ён угадвае сапраўдную прыроду людзей.

Святыя ва ўсе часы бачылі нас, звычайных смяротных, наскрозь, нішто не магло схавацца ад іх позірку. Экстрасэнсы таксама бачаць ауру чалавека і з першага імгнення могуць вызначыць, прыстойны чалавек перад імі ці з заплямленым сумленнем. Розныя людзі вылучаюць розную энергетыку, у іх розны колер ауры.

Расійскія вучоныя, якія адкрылі тарсіённыя палі, сёння з дапамогай прыбора па фатаграфіі могуць многае расказаць пра чалавека: пра яго здароўе, лёс, характар і пра тое, якімі думкамі і пачуццямі жыве гэты чалавек цяпер і якія ўчынкі, чыстыя або цёмныя, зрабіў ён у мінулым. След ад здзейсненага застаецца на асобе назаўсёды.

## НА ЖАЛЬ, МЫ МАТЭРЫЯЛІСТЫ

І мы верым толькі таму, што даказана навукай, хоць і без усялякіх доказаў ясна: нашы думкі і пачуцці маюць матэрыяльную прыроду, яны нікуды не знікаюць.

Чаму нам цяжка жыць? Мы пастаянна чуем гэта ад сваіх знаёмых пры сустрэчы: "Жыць цяжка!" Нават дзяжурныя фразы "Так сабе!", "Нічога!" паступова знікаюць. Мы ўсё часцей чуем: "Цяжка."

Але чаму – цяжка? Адкуль гэтая цяжкасць? Быццам не галадаем, былі часы, што і тужэй прыходзілася зацягваць паясы. Быццам свабоды нейкія атрымалі, можам свабодна лаяць урад і прэзідэнта, і ніхто нас за гэта ў Сібір не высылае. І ўсё ж нешта ціснe на нас, нам цяжка прачынацца раніцой, цяжка выконваць свае абавязкі. І мы пачынаем думаць: "Штосьці са здароўем у нас не ў парадку".

А гэта ціснуць на нас нашы ўласныя і чужыя думкі і пачуцці, цяжкія, як свінец. Яны шчыльным слоем вісяць над намі, яны сумныя, яны не могуць узняцца ўвысь.

Людзі з іншай энергетыкай, чыстай і светлай, асабліва адчувальныя да асяроддзя, у якім прыходзіцца жыць. Сустрэча з такім жа чыстым чалавекам для іх вялікая радасць. Вакол іх узнікае больш святла, побач з імі лёгка і прыемна кожнаму, хто яшчэ можа вылучаць з сябе светлае. І наадварот. У светлай кампаніі чалавек з цяжкай энергетыкай будзе адчуваць сябе не ў сваёй талерцы. Яму для адносін патрэбны такія ж, як ён сам, людзі з тымі ж нізкімі вібрацыямі. Падобнае прыцягвае падобнае. Людзі даўно ведаюць пра гэта, у народзе кажуць: "Рыбак рыбака бачыць здаляка".

## ЧАЛАВЕЧАЯ ГОДНАСЦЬ

Яна можа існаваць толькі там, дзе ёсць добрыя чалавечыя якасці, дзе ў аснову ўсяго кладуцца вечныя чалавечыя каштоўнасці. Калі грамадства не шануе сёння прыклады высокага ўзлёту духу – самаахвярнасць, патрыятызм, служэнне свайму народу, чалавецтву, -- лічыць усё гэта смешным і наіўным, то гэтыя якасці не будуць праяўляцца ў людзях. Калі ў грамадстве чэснасць, бескарыслівасць, высакароднасць, шчырасць, абвостранае пачуццё справядлівасці, імкненне да прыгожага лічацца прыкметамі дурняў -- сярод нас з неймавернай хуткасцю будуць размнажацца зладзеі, казнакрады, лгуны, цынікі, нягоднікі.

Калі законы, па якіх жыве грамадства, будуць пастаянна ставіць чалавека ў становішча, якое зневажае яго чалавечую годнасць (прапіска, паліклінікі, суды, бюракратызм і хабарніцтва), такое грамадства перакрывае сабе шляхі, што вядуць да ўзвышэння чалавека і працвітання дзяржавы.

Нам здавалася, што мы дасягнем хутчэйшага прагрэсу, калі шырока адчынім дзверы чужой культуры, калі пачнём пераймаць чужыя ідэалы, густы, норавы, манеру адзявацца, манеру паводзін. Нават калі не згадваць пра тое, колькі непатрэбшчыны хлынула да нас на гэтай хвалі, сама ідэя запазычанасці з'яўляецца памылковай.

Запазычанне чужых каштоўнасцей не мае ніякіх адносін да прагрэсу. Узыходжанне магчыма толькі ў тым выпадку, калі народ будзе абапірацца на сваё, уласнае, што ён ужо мае. Прагрэс не бывае пераймальным, ён заўсёды абумоўлены тым, што ўжо існуе на дадзенай глебе. Народ можа і павінен ганарыцца толькі тым, што завявана ўласнымі намаганнямі, з'яўляецца прадуктам яго ўласнага духу.

Крыніцай прагрэсу можа быць толькі ўздым уласнай культуры, якая з'яўляецца праваднікам агульначалавечых каштоўнасцей. Не разумець гэтага, праводзіць палітыку на прыгнечанне і знішчэнне таго, чым толькі і можа ганарыцца народ, значыць знішчаць у кожным з нас пачуццё ўласнай годнасці.

Калі дарослы чалавек, у якога ўжо сфарміраваліся ўласныя погляды на каштоўнасці, можа неяк супрацьстаяць цяжкай хвалі, то падрастаючае пакаленне бяздумна ўбірае ў сябе тыя ілжывыя ідэалы, каштоўнасці, густы, погляды, якімі жыве грамадства. Кумірамі маладых становяцца суперчалавекі са стальнымі мышцамі, моладзь выдатна засвойвае правілы, па якіх ёй прыйдзецца жыць у грамадстве, дзе цэніцца перш за ўсё "уменне круціцца", "уменне жыць" і "дзелавая хватка".

---

прысуд, Ленін па гэтым прысудзе арыштаваў велізарную краіну, Сталін прысуд прывёў у выкананне.

А ў сродках масавай інфармацыі замест пакаяння за зробленае неакамуністы спрабуюць змазаць колькасць ахвяр рэпрэсій з дзесяткаў мільёнаў да некалькіх тысяч. Далей — болей. "Віну" за "развал" краіны яны ўсклалі на дэмакратаў, якія з часу распаду СССР не мелі і дагэтуль не маюць рэальнай улады ні ў заканадаўчым, ні ў выканаўчым органе, тым больш на мясцовым узроўні. Неакамуністы быццам бы спрабуюць палепшыць жыццё людзей, але не маюць паўнаты ўлады. Таму іх галоўная мэта — любым чынам здабыць уладу. Але ж гэта ўжо было, калі бальшавікі пад шырмай лозунга "Уся ўлада Саветам" усталявалі знішчальную дыктатуру сваёй партыі.

Ні вялікая, ні кастрычніцкая, ні сацыялістычная, ні рэвалюцыя! Для народаў былога СССР гэта дзень Вялікай Трагедыі альбо Вялікай Катастрофы, якую можна параўнаць хіба што з татара-мангольскім ігам. Менавіта такой і пад такой назвай увойдзе гэтая падзея ў гісторыю. Нідзе і ніхто ў свеце не святкуе дзён сваіх трагедый і катастроф, бо гэта амаральна і звыродліва. Памятайце аб гэтым, людзі!

**Барыс ЖАГРЫН**

*г. Мінск*

---

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Самае дзікае, чым мы абавязаны правадыру нацыі сёння — *разбурэнне грамадства* з дапамогай хлусні на тэлебачанні, на радыё і ў іншых сродках масавай інфармацыі. *Разбурэнне людзей. Разбурэнне іх псіхікі. Разбурэнне іх сумлення. Выхаванне ў іх нянавісці* прычым гэтая нянавісць узрастае з кожным днём. Прэзідэнт сабраў пад свае сцягі велізарную армію хлусаў, паклёпнікаў, прафесійных правакатараў. Армію лакеяў ад журналістыкі, філасофіі, гісторыі, юрыспрудэнцыі, невукаў з вучонымі ступенямі і прафесарскімі званнямі. Гэтыя людзі занялі апостальскую нішу ў сродках масавай інфармацыі і пастулова ператвараюць народ у бальшавіцка-афрыканскае племя без інтэлекту і сумлення. Хлусня, як заразная хвароба, як вірус, як бацыла. Своеасаблівы, нябачны зроку СНІД, які раздзірае грамадства на "нашых" і "чужых", паўсюдна сее нянавісць і глупства, пошасць і безгустоўнасць..."

*(З выступлення на пасяджэнні Нацыянальнага кангрэса ў абарону Канстытуцыі кінарэжысёра Віктара Дашука, "Народная воля", N 97).*

## ТОЕ — СЁЕ...

### Лукашэнка помсьціць...

Старшыня распушчанага пасьля рэфэрэндуму Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі шкадуе, што не дайшло да сустрэчы з Ю. Зыхам, маршалкам польскага Сэйму ў Варшаве. Рускія пагранічнікі не прапусьцілі С. Шарэцкага праз граніцу недзе каля Гродна. Сямён Шарэцкі меў два пашпарты — дыпляматычны і службовы. Пагранічнікі абодва пашпарты прызналі несапраўднымі. Масква ведае што робіць і сьлёзам ня верыць...

### АТАМНАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ?

Міністр энэргетыкі Беларусі Валянтын Герасімаў нядаўна сказаў, што Беларусь плянуе пабудаваць атамную электрастанцыю на працягу наступных трох гадоў. Такая электрастанцыя мае каштаваць каля 4-ох більёнаў даляраў (так, даляраў). Беларусь, якая найбольш пацярпела ад Чарнобыля, хоча пабудаваць яшчэ адну крыніцу сьмерці. Масква беларусаў не шкадуе... Хто мае будаваць гэты аб'ект самазразумела. Будаваць будуць рускія "прафэсыяналы". А што на гэта скажуць суседзі Беларусі?..

Ці можа таварыш Герасімаў напіўшыся "Сталічнай" меле п'яным языком...

### САНКЦЫІ ЗША СУПРОЦЬ БЕЛАРУСІ

Нядаўна вярнуліся з Менску прадстаўнікі Кангрэсу ЗША, якія вывучалі палітычную сытуацыю ў Беларусі.

Амэрыканскае кіраўніцтва не прызнае антыканстытуцыйных дзеяньняў Лукашэнкі. Парушэньні ў Беларусі правоў і свабод чалавека ды іншыя антыдэмакратычныя дзеяньні ўладаў, могуць заставіць Кангрэс ЗША прыняць санкцыі адносна Беларусі. Гэта можа дрэнна адбіцца на міждзяржаўных адносінах, а таксама на прыватных бізнэскантактах. Амэрыканскія прадстаўнікі будучы ў Менску не захацелі сустракацца з Лукашэнкаўскім "парлямэнтам"...

### ЯНКУ ЮХНАЎЦУ — 75

Янка Юхнавец — адзін з вядомых прадстаўнікоў беларускае літаратуры ў замежжы. Я. Юхнавец паходзіць з Докшыцкага раёну. У 1944 годзе ён апынуўся ў Нямеччыне, дзе жыў і вучыўся аж да 1949 г. У гэтым годзе выязджае на сталае жыхарства ў Амэрыку і пасяляецца ў Нью Ёрку.

Я. Юхнавец зьяўляецца аўтарам некалькіх кніг паэзіі.

Жадаем Я. Юхнаўцу «Сто год» і зычым яму шмат здароўя ды далейшых творчых посьпехаў.

### ВЫЙШАЎ ДРУГІ ТОМ "БЕЛАРУСКАЙ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ"

У выдавецтве «Беларуская энцыклапэдыя» выйшаў чарговы, другі па ліку том Беларускай Энцыкляпэдыі, якая заплянавана ў 18 тамах... Том увабраў у сябе матэрыялы ў межах слоў "Аршыца" — "Беларусцы".

Том багата ілюстраваны — зьмешчана 927 ілюстрацыяў, у тым ліку 142 партрэты, 58 картаў.



*Янка ЗАПРУДНІК:* "Наша Слова"

# Беларусь адбудуе моладзь



*Янка Запруднік (сапр. імя і прозвішча Сяргей Вільчыцкі, паэтычны псеўданім Ясень) — вядомы вучоны, пісьменнік, грамадска-палітычны дзеяч беларускага замежжа. На эміграцыі з 1944 года. Прымаў удзел у Першым з'ездзе беларусаў свету (1993) і ў тых прэс-канферэнцыях, якія ладзілі беларускія ўрадоўцы сумесна з інтэлектуаламі беларускага замежжа для журналістаў і на якіх ён выказаў уласныя прапановы і меркаванні наконт духоўнага, эканамічнага і дзяржаўнага адраджэння Бацькаўшчыны. Нацыянальныя інтарэсы беларускага народа Янка Запруднік абараняе паслядоўна на працягу многіх гадоў. Сёлета з нагоды ягонага 70-гадовага юбілею ў музеі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны адкрыта выстава, а ў сталічным Доме літаратара з вялікім поспехам прайшла вечарына.*

*Гутарка з Янкам Запруднікам запісана на Міжнароднай канферэнцыі "Культура і адукацыя беларускага замежжа", якая адбылася 5-6 кастрычніка г.г. у Менску.*

**— Спадар Запруднік, якія Вашы ўражанні ад сустрэчы з сённяшняй Беларуссю, што Вы ў нас убачылі і пачулі?**

— Я да вас прыехаў 20 верасня, браў удзел у канферэнцыі на тэму грамадзянскай супольнасці, затым паехаў з жонкай да сваякоў у Мір, у Баранавічы і ў Жыткавічы. Учора і сёння — я на канферэнцыі "Культура і адукацыя беларускага замежжа". Уражанні такія: перш-наперш тут холадна і ў прамым сэнсе, і ў пераносным. Але вось, як бачым, людзі і ў гэтым холадзе неяк выжываюць і змагаюцца, знаходзяць крыніцы цяпла. У пераносным сэнсе крыніца цяпла — гэта Беларусь, якая змагаецца за сваё "Я", за сваё існаванне, сваю культуру, духоўную базу, на якой трэба адбудоўваць эканоміку. Тут атрымліваецца нейкая такая перакуленая не па-марксісцку структура: у аснове — дух, а наверсе — эканоміка. І жыццё паказала, што марксісцкая формула не спрацоўвае. Трэба, відавочна, не культуру на эканоміцы базаваць, а эканоміку — на культуры. Хоць, па-праўдзе кажучы, абодва складнікі звязаны арганічна. Не можа быць багатай культуры без багатай эканомікі. Гэта ўсведамляюць усе, у тым ліку і Прэзідэнт Лукашэнка, які сказаў, што мы будзем багатыя культурна, калі будзем багатыя эканамічна. На жаль, у яго не выходзіць ні з адным, ні з другім. Ён і культуру гэтую здушвае наніз, і з эканомікай у яго нічога не выходзіць, і яна наніз ідзе. Такое ўражанне ад сённяшняй Беларусі. Але ж я сустракаўся з маладымі беларусамі, некаторыя з якіх былі ў замежжы, бачылі, як пабудавана рэшта свету, і ў гутарцы з імі набраўся аптымізму: пабачыў, што расце здаровая маладая змена, частка якой вельмі добра разумее вартасць нацыянальнай культуры, нацыянальнай ідэі.

**— А зараз да Вас пытанне як да юбіляра: што Вам удалося здзейсніць на беларускай ніве ў творчым і ў грамадскім планах?**

— Пражыўшы семдзесят гадоў і займаючыся беларускай справай ад васемнаццацігадовага ўзросту, ёсць пра што ўспомніць і што пералічыць. Мне, бадай, будзе цяжка назваць усё, што ўдалося здзейсніць, аднак паспрабую. Быў я актыўным на ніве журналістыкі — трыццаць сем гадоў адпрацаваў каментатарам на радыё "Вызваленне", якое пазней стала называцца "Свабодай". Пятнаццаць гадоў рэдагаваў газету "Беларус", працаваў і працую ў беларуска-амерыканскіх арганізацыях, з'яўляюся сябрам управы "Беларуска-амерыканскага "Задзіночання" і ўправы Беларускага інстытута навукі і мастацтва, уваходжу ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Я выкладаў расійскую, савецкую гісторыю ў Нью-Йоркскім універсітэце, курс гісторыі і палітыкі Беларусі ў Калумбійскім універсітэце і ў інстытуце імя Гарымана (Гарыман быў паслом ЗША ў СССР — **І.К.**). З'яўляюся аўтарам кніжкі па гісторыі Беларусі, якая павінна выйсці ў Менску ў беларускім перакладзе з англійскай мовы, з дадатковым раздзелам пра апошнія падзеі на Бацькаўшчыне. Напісаў шэраг артыкулаў пра Беларусь для амерыканскіх энцыклапедый, цяпер апрацоўваю гістарычны слоўнік Беларусі, які выйдзе ў серыі "Гістарычныя еўрапейскія слоўнікі" і які мушу скончыць да сярэдзіны наступнага года. Гэта праца складаецца з храналогіі, уводнага артыкула на старонак трыццаць, слоўнікавай часткі і даволі дэтальнай бібліяграфіі з дваццаццю падраздзеламі. Цяпер рэдагую альбом, прысвечаны дваццаці тром гадавым мастацкім выставам, якія адбываліся ў штаце Нью-Джэрсі. Бяру ўдзел у розных канферэнцыях. Так, у лістападзе г.г. прыму ўдзел у канферэнцыі на з'ездзе амерыканскіх славістаў у Бостане. Тэма майго выступлення "Роля гістарычнай веды ў адбудове беларускай дзяржаўнасці". Вось больш-менш пра тое, што мне ўдалося здзейсніць.

**— А паэзія Сяргея Ясеня?**

— Паэзія — занятак маёй маладосці, хоць і цяпер часамі нейкія такія накіды напрошваюцца. Сёння пры маёй занятасці іншымі справамі я пакідаю паэзію маладым паэтам Беларусі, сярод якіх ёсць выдатныя. Я вельмі зацікаўлены ў іхняй дзейнасці, у іхняй працы і думаю пра іх са спадзяваннем.

**— Раскажыце пра ўдзел амерыканскіх беларусаў у палітычным і грамадскім жыцці.**

— Мы, беларусы Амерыкі, падтрымліваем кантакты з амерыканскімі ўрадавымі і палітычнымі коламі, бяром удзел у перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі, трымаем лучнасць з Дзяржаўным дэпартаментам Злучаных Штатаў Амерыкі, з кангрэсменамі і сенатарамі тых штатаў, дзе жывуць беларусы,— а жывуць яны ў асноўным у штатах Нью-Джэрсі, Нью-Йорк, Агаё, Каліфорнія і інш., інфармуем улады пра развіццё падзеяў на Беларусі, даём сваё разуменне гэтых падзеяў, спрыяючы станаўленню беларускай дзяржаўнасці і беларускай культуры, дэмакратызацыі грамадства і адраджэнню эканомікі і т.п.

**— Значыць, у эканамічным плане Вы таксама нейкім чынам уплываеце на справы Беларусі? Памятаецца, у Вас былі адпаведныя праекты, з якімі Вы прыязджалі на Першы з'езд беларусаў свету.**

— Перш-наперш мы стараемся, каб у Беларусь ішла дапамога ахвярам чарнобыльскай катастрофы, асабліва дзецям, і пашыраем звесткі пра яе вынікі. У Дзяржаўным дэпартаменце ЗША дамагаемся, каб Беларусь не была абыдзена ў размеркаванні дапамогі, што ідзе ў краіны былога СССР. Эканамічны аспект нашай дзейнасці ў дадзенай сітуацыі звужаны, пакольки амерыканскія бізнесмены інвестуюць свае капіталы ў краіны з дэмакратычным ладам, дзе іхнія ўкладанні гарантаваны не амонаўцамі, не войскам, а законамі. Гэта адна з дэталяў, якой, на жаль, не разумее Прэзідэнт Лукашэнка, які запэўніваў амерыканскіх бізнесменаў тут, у Менску, што іхнія ўклады будуць гарантаваны войскам. Але яны не такія наіўныя людзі, каб не разумець, што найлепшая гарантыя іхніх укладаў — гэта адпаведнае заканадаўства, якога, на жаль, на Беларусі яшчэ няма, ну, і, пэўна ж, няма яшчэ волі вашага ўрада праводзіць рынкавыя рэформы.

**— А як складваюцца Вашы кантакты з нацыянальнымі цэнтрамі на Беларусі?**

— У асноўным мы кантактуем з усімі такімі установамі. Напрыклад, мой сябра, старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель, заступнікам якога я з'яўляюся, вельмі актыўна рассылае нашы выданні па беларускіх бібліятэках і універсітэтах: у Гомель, Гародню, Полацк, Віцебск, Менск і іншыя гарады. Мы кантактуем са Скарынавым цэнтрам і Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", з нацыянальнай бібліятэкай, якой хачу цяпер перадаць дзве свае кніжкі. Адна з іх — пра гісторыю, палітыку і эканоміку Беларусі выйшла пад назвай "Беларусь на гістарычным скрыжаванні" (1993), другая — "Беларусь і Малдова" (1995) — выйшла ў выдавецтве кангрэсавай бібліятэкі ЗША і адрасуецца дыпламатам Дзяржаўнага дэпартамента дзеля азнаямлення з гэтымі краінамі. Мы трымаем таксама кантакты з беларускімі скаўтамі, з Беларускім Народным Фронтам "Адраджэньне", з усімі дэмакратычнымі арганізацыямі: сацыял-дэмакратамі, хрысціянскімі дэмакратамі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадой, з газетамі "Свабода", "Літаратура і мастацтва" і "Наша слова". Пра вашу газету магу сказаць, што яна публікуе вельмі патрэбныя матэрыялы, і я ведаю, што ў Амерыцы беларусы з вялікай ахвотай яе чытаюць, сочаць па ёй за ходам падзей, за станам беларускай мовы. Ну, і затым мы трымаем кантакты з некаторымі шпіталямі, куды пасылаем лекі. Вось, прыкладам, мы з жонкай зараз цікавіліся, ці дайшла да Жыткавіцкага шпіталя тая дапамога, якую мы яму ахвяравалі.

**— Цікава, а яна дайшла?**

— На жаль, многае не дайшло. Цяжка сказаць, што ў вас робіцца, чаму дапамога не даходзіць туды, куды пасылаецца.

**— Скажыце колькі слоў пра тое, што плануеце здзейсніць.**

— Перш-наперш мушу скончыць апрацоўку гістарычнага слоўніка Беларусі, а таксама рэдагаванне альбома, прысвечанага мастацкім выставам. У мяне моцнае жаданне напісаць гісторыю "Дванаццаткі" — пра незабыўны перыяд у маім жыцці.

**— А што такое гісторыя "Дванаццаткі"?**

— Гэта гісторыя пра дванаццаць юнакоў-бязбацькавічаў, якія, скончыўшы беларускую гімназію імя Я.Купалы ў Рэгенсбургу і Міхельсдорфе, у студзені 1948 года выехалі працаваць шахцёрамі ў Англію, дзе трымаліся разам і дагаварыліся нават з чужынкамі не жаніцца. Там мы выдавалі часопіс "Напер"ад", дзякуючы якому пра нас даведаліся беларускія студэнты Лювэнскага універсітэта з Бельгіі, пасля чаго мы знайшлі магчымасць далучыцца да іх.

**— Вы скончылі Лювэнскі універсітэт?**

— Я скончыў гістарычны факультэт гэтага універсітэта ў 1954 годзе.

**— А бельгійскі фармацэўт спадар Клыбік таксама быў у ліку дванаццаці вашых сяброў?**

— Не, не быў. Я з ім пазнаёміўся ўжо ў Бельгіі, калі жылі разам у адным студэнцкім доме. Там мы вучыліся і закончылі сваю навуку. Хачу яшчэ сказаць, што з намі быў кампазітар Мікола Равенскі. З трыццаці з нечым беларускіх хлопцаў і дзяўчат, што вучыліся ў Лювэнскім універсітэце, ён адабраў шаснаццаць асоб і ўтварыў беларускі хор. На пачатку пяцідзесятых гадоў мы выязджалі з гастролямі ў Бон, у Парыж, у Лондан — аж да смерці Равенскага ў 1953 годзе. Хачу дадаць да сказанага: чым больш трымаю лучнасць з Беларуссю, тым больш мяне цікавіць рэалізацыя тэмы "Беларуская нацыянальная ідэя і беларускі нацыяналізм", якую спадзяюся распрацаваць у аспекце ўзаемасувязі гэтых паняццяў: што гэта за канцэпцыя і якую ролю яна павінна адыгрываць у далейшым развіцці беларускай дзяржаўнасці.

**— Мне вядома, што ў вайну Вы вучыліся ў Баранавіцкай беларускай прагімназіі. І я ў ёй вучылася — ці не ў адзін час з Вамі?**

— Значыць, мы вучыліся ў адной школе. Прагімназію я закончыў у 1943 годзе, затым скончыў трэці курс гандлёвай школы, а тады, у канцы чэрвеня 1944 года, адбылася эвакуацыя. Паколькі я парушыў забарону партызан не вучыцца ў час акупацыі, і быў членам Саюза беларускай моладзі, то палічыў больш разумным выехаць на Захад.

**— Ці сустракаліся Вы ў Штатах з лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком?**

— Вядома ж, мы сустракаемся. Дапамагаем яму і ў ролі перакладчыкаў, і ў ролі праваднікоў, бо англійскай мовы ён не ведае. Настрой у яго цяпер не просты, не лёгкі, але адначасна і аптымістычны. Пазьняк — вельмі загартаваны змагар, чалавек з моцным духам, і я думаю, што ён дасць рады ў новай сітуацыі.

**— А як склалася яго матэрыяльнае становішча? Ці не давядзецца яму працаваць у шахтах, як колісь Вам?**

— Яго матэрыяльнае становішча сапраўды цяжкае. У вас няправільна разумеюць, што амерыканская дзяржава разам са статусам палітычнага ўцекача яму дае нейкую дапамогу. Абсалютна ніякай дзяржаўнай дапамогі Пазьняк не атрымлівае. Яму давядзецца выжываць уласнымі сіламі.

**— Што скажаце на развітанне?**

— Перш-наперш хачу падзякаваць вам за інтэрв'ю. Я рады, што мы знайшлі дзеля гэтага вольную часінку. Беларусам Амерыкі вядома, што вашай рэдакцыі даводзіцца працаваць у незвычайна цяжкіх, экстрэмальна-цяжкіх абставінах. Мы гэта разумеем і са свайго боку стараемся, наколькі гэта магчыма, спрыяць вам і пачуваемся разам з вамі. "Наша слова" — вельмі патрэбнае выданне, таму што мова — адна з асноў нашага існавання. Можа, не адзіная. Некаторыя, як мне здаецца, звужаюць базу нашай бытнасці, атаесамляючы яе толькі з мовай. Не! Я думаю, гэта база шырэйшая. Сам факт існавання дзяржаўнасці, якая б яна ні была, уплывае на светагляд маладых людзей. Я ў гэтым пераканаўся, сустракаючыся тут з маладымі расійскамоўнымі беларускімі незалежнікамі. Безмоўная рэч, мову трэба бараніць, развіваць, адстойваць,— тое, што вы робіце сёння. І мы ў гэтай справе будзем вас падтрымліваць маральна. Аднак трэба сваю базу крышачку шырэй браць, бо калі мы звужаем разуменне базы свайго існавання, мы асуджаем сябе на песімізм. А нам патрэбен аптымізм, нам патрэбна моц духу і нам трэба разумець сваю сітуацыю, можа, крышачку больш трывалую, чымся толькі самое існаванне мовы...

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

# Лукашенко обманул не только белорусскую демократию, но и Черномырдина

СВАБОДА
6 снежня 1996 г., № 93

*Известный российский политик Константин* БОРОВОЙ *отвечает на вопросы обозревателя* СВАБОДЫ

**— Г-н Боровой, Вы ознакомились с ситуацией в нашей стране. Какую оценку Вы даете характеру белорусской власти?**

— Сегодня это обычная диктатура. Лукашенко, сфальсифицировав референдум, фактически объявил о режиме личной диктатуры. Теперь гражданам остается объявить его вне закона. Так оценивает ситуацию всё Европейское Сообщество, так могу сказать и я, но было бы лучше, чтобы кто-то из ваших политиков произнес эту фразу.

**— Наша оппозиция до сих пор находится в растерянности. Или Вы думаете иначе?**

— Просто было состояние шока. Никто не предполагал, что Россия может предать. А это настоящее предательство. Россия стала спонсором мирного урегулирования, но после этого Лукашенко всех послал к черту. Тогда спонсор должен был объявить бойкот, потребовать выполнения соглашения, но вместо этого прозвучали слова поддержки...

**— Выходит, что Лукашенко вместе с Черномырдиным обманули белорусскую демократию. Или наш президент обманул еще и вашего премьера?**

— Для меня очевидно, что Лукашенко обманул и Черномырдина. Поверьте, я знаю ситуацию, чтобы так утверждать. Что же касается последовавшего затем одобрения... Видите ли, Черномырдин — образец консервативного политика. Он приехал, добился подписания соглашения, отдал команду подготовить поздравительную телеграмму и уехал — в Мурманск, в Париж. И телеграмма потом автоматически выходит. А заговора, я думаю, не было. Хотя белорусские политики, полагаю, всё же вправе считать, что заговор был.

**— Черномырдин простит Лукашенко обман?**

— Для Черномырдина то, что произошло с соглашением, это катастрофа. Вопрос небольшого времени, чтобы факт этой катастрофы стал информационным фактом.

**— А что может предпринять Черномырдин?**

— Боюсь, что теперь уже ничего. Отмазаться от интересов «Газпрома», отказаться от поддержки строительства газопроводной ветки не может.

**— Белорусский президент действовал по принципу «победителей не судят». Однако можно ли считать, что он в действительности победил?**

— Нужно говорить совершенно о другом. О том, что он загнал себя в тоннель, из которого есть только один выход — отдать власть. А поскольку власть он так просто не отдаст, то у меня нет никаких сомнений, что у вас начнутся репрессии. 120 тысяч полицейских, 80 тысяч армии плюс КГБ, президентская служба безопасности — все будет задействовано. А это — кровь. И наиболее вероятно, что повторится румынский вариант.

**— При условии, что диктатуре будет кто-то противостоять. Вам не показалось, что у нашей оппозиции для этого мало сил? Даже нет лидера?**

— А это неважно. Лидеры создаются, вот только сейчас для этого появились все условия. А репрессии фактически уже начались. Оппозиционеров увольняют с работы, оказывают нажим на их родственников, в тюрьме сидят даже граждане другой страны, восем месяцев держат в застенках КГБ поэта... Всё! Дальше процесс развивается автоматически. Неважно, кто сейчас будет «назначен» или избран демократами своим лидером. Он появится обязательно. Однако, тот кто согласится быть лидером, должен понимать — его ждет тюрьма.

**— Но Лукашенко после референдума вдруг заговорил о примирении...**

— Гм... После референдума уже не Лукашенко принимает решения. Их принимают люди вокруг него, люди, которые спасают себя ценой авторитета Лукашенко, это происходит уже автоматически. Им сейчас просто надо кого-то посадить в тюрьму, кого-то «замочить» и повязать президента кровью. Даже если Лукашенко не захочет, это всё произойдет.

**— Не приходилось ли Вам в Минске во время бесед с нашими оппозиционерами, которые сильно разочаровались в Москве, отдуваться за российских политиков?**

— Да, приходилось. В России действительно только поменялись кадры в руководстве, но по сути оно осталось тем же. Та же номенклатура с имперскими замашками. Настоящая демократия в России еще не победила. И у нас среди политиков много подобных вашему Лукашенко, которые ищут простые решения сложных проблем. А ведь это самое простое решение — диктатура, империя. Вот, например, Лужков. Взял и заявил, что Севастополь наш и думает, что решил проблему. И для вашего Лукашенко, которые приехал из глухой деревни, диктатура тоже представляется самым эффективным решением вопроса, который на самом деле требует большого ума, опыта, знаний, работы.

**— Что Вы скажете о версии, согласно которой Лукашенко метит на престол России?**

— Я готов серьезно оценивать его шансы, но если честно, то «нашему бы теляти да волка съести». Лукашенко не понимает в какую стаю попадет. Его просто сожрут и выплюнут косточки. Кстати, после референдума для него и в России начал действовать совершенно другой сценарий. Может быть он и надеялся на проведение референдума об объединении с Беларусью у нас в России, но сейчас это уже нереально. Власти у Ельцина достаточно, чтобы этому помешать. В Государственной Думе какие-то механизмы будут запущены, теми же коммунистами, но Лукашенко сам их подставил. Теперь белорусского президента так дружно поддерживать не будут. Плюс репрессии внутри Беларуси, плюс неизбежное ухудшение экономической ситуации. Референдум по объединению с таким режимом — нет, это абсурд.

**— Реальна ли политическая изоляция и экономические санкции против режима?**

— Абсолютно реально. В Лиссабоне это уже проявилось. Ваш президент оказался в положении больного холерой среди здоровых. Ему никто и руки там не подал. И Россия будет вынуждена присоединиться к санкциям.

**— Непохоже, чтобы Россия бросила своего стратегического партнера?**

— Конечно, это произойдет не сразу и не окончательно. Но ведь все понимают, что через вас качают нефть и газ для того, чтобы их там, на Западе потребляли. Россия сильно зависит от Европы, а значит будет вынуждена действовать как все. Это все равно, как если в приличном обществе издать неприличный звук: все сделают вид, что этого не заметили, но никто этого не забудет и не простит. В конце концов придется подключиться и к экономической блокаде. По большому счету исчезнет смысл ввозить сюда что-то с востока, если закроется граница на западе Беларуси. Экономическая блокада уже фактор времени. Лукашенко сам будет создавать условия для блокады своими действиями по защите режима. Конечно же, Государственная Дума попытается сохранить лицо и тем самым ухудшит позиции России, однако, не думаю, что Ельцин последует ее курсу. Сейчас власть очень прагматична. В одиночестве оставаться просто невыгодно и в долгосрочной перспективе мы все заинтересованы в поддержании демократии вокруг нас, хотя эта концепция полностью российским руководством еще не осознана.

**— Каков Ваш прогноз на ситуацию в Беларуси?**

— Если сказать резко (а в ваших условиях хочется выражаться резко), то это ситуация перед восстанием. Не завтра, не послезавтра, но в перспективе. Никакой газопровод, никакие вливания из России, на которые надеется Лукашенко, режим не спасут. Экономика будет разваливаться прямо на глазах, а у режима нет своих ресурсов. Нет средств даже на поддержание репрессивного механизма, ведь на 4,5 млн. трудоспособного населения приходится 200 тыс. репрессивного аппарата, да еще столько же чиновников. Даже самая эффективная экономика, не то что белорусская, такую армию иждивенцев не прокормит.

*Беседовал*
**Олег ГРУЗДИЛОВИЧ**

*МЕРКАВАННЕ*

## Джонатан СЦІЛ:
# «АСВЯТЛЕННЕ ВЯЛОСЯ АДНАБАКОВА»

"Звязда"

**«Беларускія выбаршчыкі былі пазбаўлены шанцу прадэманстраваць падчас рэферэндуму дэмакратычны выбар, паколькі асвятленне кампаніі вялося аднабакова». Пра гэта 25 лістапада на прэс-канферэнцыі заявіў рэдактар брытанскай газеты «Гардыян» Джонатан Сціл, які ўзначальваў групу міжнародных назіральнікаў ад Еўрапейскага інстытута па СМІ.**

Свае словы сп. Сціл пацвердзіў вынікамі маніторынгу, які назіральнікі ажыццяўлялі на працягу двух тыдняў напярэдадні рэферэндуму. Пры гэтым ён заўважыў, што эксперты не сачылі за ходам галасавання і падліку бюлетэняў, а сканцэнтравалі сваю ўвагу толькі на дзейнасці тэлебачання, радыё і газет. Асабліва іх цікавілі электронныя сродкі масавай інфармацыі, якія маюць найбольшы ўплыў на грамадзян. Такім чынам, паводле інфармацыі назіральнікаў, з 9 па 23 лістапада дзяржаўнае тэлебачанне Беларусі прысвяціла рэферэндуму 2178 хвілін эфірнага часу (гэта больш за паўтара сутак), з якіх 90 працэнтаў былі на карысць Прэзідэнта А. Лукашэнкі, а астатнія мелі нейтральны характар. Вярхоўны Савет на свой рахунак не мог запісаць ніводнай хвіліны. Пра яго казалася толькі тады, калі выбаршчыкаў заклікалі галасаваць супраць прапаноў парламента. Яшчэ больш складаная сітуацыя на Беларускім радыё, дзе нагаварылі 2249 хвілін пра плебісцыт. 92 працэнты размоў былі на карысць прэзідэнцкіх прапаноў, а Вярхоўны Савет зноў не атрымаў ніводнай хвіліны.

Што датычыцца газет, то тут Еўрапейскі інстытут па СМІ таксама прыгадаў мала станоўчых фактаў. Дзяржаўныя друкаваныя органы ў абсалютнай большасці падтрымлівалі і адлюстроўвалі прэзідэнцкі бок. Альтэрнатыўную пазіцыю прадстаўлялі нешматлікія недзяржаўныя газеты, якія выдаюцца невялікім накладам, распаўсюджваюцца пераважна ў вялікіх гарадах, не аказваючы, такім чынам, моцнага ўздзеяння на выбаршчыкаў.

Прыведзеныя факты, як падкрэсліў сп. Сціл, не толькі супярэчаць уяўленню аб дэмакратычнасці волевыяўлення грамадзян, але нават не адпавядаюць указу Прэзідэнта аб дзейнасці Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, дзе прадугледжана, што радыё і тэлебачанне павінны поўна і аб'ектыўна прадстаўляць усе пункты гледжання. Дарэчы, у Адміністрацыі Прэзідэнта на заўвагі назіральнікаў адказалі, што пазіцыя парламента была дастаткова прадстаўлена расійскімі СМІ. «Але гэта не пазбаўляе адказнасці, паколькі Беларускае тэлебачанне існуе на сродкі беларускіх грамадзян», — пярэчыць Джонатан Сціл. Тым не менш, быў праведзены і маніторынг каналаў ГРТ і РТР, у выніку чаго высветлілася, што з усіх 309 хвілін перадач адносна беларускага рэферэндуму 50 працэнтаў адлюстроўвалі пазіцыю парламента, а астатнія мелі нейтральны характар.

Міжнародныя назіральнікі ў выніку прыйшлі да высновы, што працэдура галасавання па выбарчых участках і ходу падліку бюлетэняў у дзень выбараў не з'яўляюцца ў поўнай меры дастатковымі, каб прызнаць рэферэндум свабодным і справядлівым. Каб сапраўды прызнаць галасаванне дэмакратычным, неабходна ўлічыць акалічнасці ўсёй перадвыбарнай кампаніі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**




Ужо больш 9-ці месяцаў у Менску сядзіць у турме лідэр беларускай палітычнай арганізацыі «Правы Рэванш», — паэт Славамір Адамовіч. Ён свайго часу напісаў верш "Убей президента", які беларускія энкавудзісты палічылі як заклік да тэрарызму. Славамір патрабуе дапамогі...

На здымку маці Славаміра Адамовіча з яго прыяцелем пікітуюць рэзыдэнцыю прэзыдэнта Лукашэнкі.



# «Беларусь, гэта дзеці тваe»

«НАВІНЫ А.Н.Б»

«Я роджаны ў Амерыцы, але жыву Беларуссю»,— гэтыя словы належаць амерыканцу беларускага паходжання Б. Цупрыку, які нарадзіўся ў ЗША ў 1954 г., добра размаўляе па-беларуску, і, па яго словах, усё свядомае жыццё тлумачыць амерыканцам, што ён беларус, адчувае, што за яго спіной «вялікі народ, самабытная нацыянальная культура, шматвяковая гісторыя». Дык колькі ж цяпер у замежжы нашых суродзічаў, ці шмат хто з іх, а таксама іх дзяцей і ўнукаў адчуваюць сябе беларусамі, на чым жа трымаецца беларушчына па-за межамі бацькаўшчыны? Мяркуецца — каля 3,5 мільёна.

Дакладней колькасць замежных беларусаў вызначыць цяпер, бадай, немагчыма: адсутнічае адпаведная афіцыйная статыстыка як на бацькаўшчыне, так і ў большасці краін іх пасялення. Аснову сучаснай беларускай дыяспары складаюць перасяленцы масавай пасляваеннай хвалі, а таксама нешматлікія «невозвращенцы» (што часам здаралася з-за адсутнасці заканадаўча замацаванага да сярэдзіны 80-х гадоў права на эміграцыю), дзесяткі тысяч асеўшых за апошнія дзесяць гадоў у кранах далёкага замежжа. Не згубілі там сваіх нацыянальных каранёў і прадстаўнікі, хоць і не надта шматлікія, старой эміграцыі, а таксама іх нашчадкі — дзеці, унукі. У выніку распаду СССР больш 2 млн беларусаў аказаліся ў новых незалежных дзяржавах на былых яго абсягах. Сотні тысяч іх аказаліся на памежных цяпер тэрыторыях па-за бацькаўшчынай на сваіх спрадвечных этнічных землях. Гэта стала вынікам палітычных спекуляцый савецкага кіраўніцтва, заключаных ім пагадненняў у 20—40-я гады нашага стагоддзя.

Сучасная заходняя беларуская дыяспара, нягледзячы на добрую інтэграванасць у жыццё новых краін, натуральныя працэсы асіміляцыі, доўгія гады адлучэння таталітарнай сістэмай ад бацькаўшчыны, назапасіла багаты вопыт уладкавання нацыянальнага жыцця, стварыўшы грамадска-культурныя, рэлігійныя, навуковыя, выдавецкія і іншыя арганізацыі, аб'яднанні, цэнтры. І такім чынам зацвердзіла сябе ў замежжы як самастойную, самабытную этнічную супольнасць.

Якія ж істотныя, вызначальныя фактары паспрыялі захаванню значнай часткай эміграцыі нацыянальных традыцый, звычаяў, роднай мовы, культуры, сваёй адметнасці?

Найперш, усё ж, мусіць, існаванне ў замежжы беларускай царквы. Напрыканцы 40-х — пачатку 50-х гадоў намаганнямі вернікаў (і не ў апошнюю чаргу палітычна актыўнай іх часткі — прыхільнікаў Рады БНР і БЦР) заснаваны Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква (БАПЦ) і Беларуская праваслаўная царква (БПЦ), беларускія прыходы юрысдыкцыі Усяленскага канстанцінопальскага патрыярхата. Аб значнасці арганізацыі ў замежжы рэлігійна-царкоўнага жыцця на нацыянальнай аснове (набажэнства на роднай мове, выданне па-беларуску рэлігійнай літаратуры, часопісаў, бюлетэняў, дзейсная падтрымка культурна-асветніцкіх пачынанняў беларускай грамады) сведчыць тое, што сярод беларускіх эмігрантаў пераважную большасць складаюць праваслаўныя (да 80 працэнтаў). Іх дэнацыяналізацыя ў значнай ступені прыпынілася, бо ранейшая практыка, калі беларусы-хрысціяне далучаліся ў замежжы да рускай праваслаўнай царквы розных юрысдыкцый ці польскага касцёла, прыводзіла да іх адчужэння ад сваіх каранёў (пад уплывам чужых традыцый і культуры). Зараз дзейнічае больш 20-ці прыходаў БАПЦ і БПЦ у ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, пабудаваны цэрквы, архітэктура і аздабленне некаторых з іх маюць характэрныя нацыянальныя асаблівасці. Фенаменальнасць і унікальнасць канфесійнай самастойнасці ў духоўным жыцці замежных беларусаў становіцца асабліва відавочнай, калі нагадаць, што на бацькаўшчыне пануюць Руская праваслаўная царква (створаны яе Беларускі экзархат, хаця можна прыпомніць спробы афармлення і замацавання аўтакефаліі на Беларусі ў 20-я гады і падчас другой сусветнай вайны) і рымска-каталіцкі касцёл, які тут у большасці сваёй нясе адзнакі польскасці.

Нацыянальны аспект адчувальны і ў рэлігійна-царкоўным жыцці замежных беларусаў-каталікоў, уніятаў, пратэстантаў. Варта прыгадаць спробы стварэння ў 50-х гадах беларускіх парафій рымска-каталіцкай царквы ў ЗША, існаванне пэўны час незалежнай ад Рыма «Беларускай праўдзіва каталіцкай набожні».

Беларускі каталіцкі друк у эміграцыі ў пасляваенныя дзесяцігоддзі спрыяў абуджэнню нацыянальнай свядомасці маладога пакалення, даваў веды па гісторыі і культуры беларускага народа. Цяпер існуюць беларускія каталіцкія (уніяцкія) місіі ў Лондане, Парыжы, парафія ў Чыкага. Даследчык беларускай эміграцыі В. Кіпель лічыць пераход беларусаў-католікаў абодвух абрадаў у царкоўным жыцці поўнасцю на беларускую мову «бясспрэчным гістарычным дасягненнем».

Пратэстанцкі рух адзначаны стварэннем у 1973 г. Беларускага евангельска-баптысцкага брацтва ў ЗША і Канадзе, публікацыямі па-беларуску рэлігійнай літаратуры (у тым ліку першага перакладу на беларускую мову «Новага запавета»), ужываннем у апошні час у прапаведзях беларускай мовы.

Пасля другой сусветнай вайны ўпершыню ў замежжы была створана беларуская нацыянальная школа, што паспрыяла выхаванню моладзі ў традыцыях свайго народа, набыццю ёю ведаў па гісторыі і культуры Беларусі, сувязі пакаленняў. Беларуская грамада, скарыстаўшы кампактнасць пражывання з сем'ямі ў лагерах для перамешчаных асоб (1945—1949 г. у Германіі і Аўстрыі), наяўнасць настаўнікаў і адукаваных людзей, абапіраючыся на дапамогу заходніх акупацыйных улад і адміністрацыі ЮНРРА, наладзіла працу больш дзесяці дзіцячых садкоў, каля двух дзесяткаў пачатковых школ, чатырох гімназій. Большасць іх выпускнікоў атрымалі вышэйшую адукацыю, набылі добрыя спецыяльнасці, склаўшы інтэлектуальную нацыянальна свядомую эліту эміграцыі.

Дарэчы, з 1973 г. пры Беларускім інстытуце навукі і мастацтва ў Нью-Йорку дзейнічае Фонд беларускіх падручнікаў. Апошнім годам беларускіх школ стала менш: новае пакаленне (дзеці і ўнукі эмігрантаў) у асноўным англамоўныя, ды і прытоку перасяленцаў з сем'ямі было няшмат. Але абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, працэсы нацыянальнага адраджэння пашырылі цікавасць замежных грамадзян беларускага паходжання да нацыянальных традыцый, культуры.

Важная роля як захавальнікаў і папулярызатараў культурнай спадчыны, ведаў пра Беларусь у свеце належыць замежным беларускім грамадска-культурным арганізацыям, навуковым, культурна-асветніцкім цэнтрам, нацыянальнаму друку. Створаныя ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў і дзеючыя цяпер Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі, Беларуска-амерыканскае задзіночанне, Беларускі кангрэсавы камітэт, Згуртаванне беларусаў у Канадзе, Беларускае нацыянальнае аб'яднанне ў Аўстраліі, Беларускі хаўрус у Францыі, Саюз беларусаў Бельгіі, заснаваныя пазней дзесяткі новых арганізацый сталі каталізатарамі культурна-асветніцкай нацыянальнай дзейнасці, арганізатарамі мастацкіх і фальклорных калектываў, святкавання гадавін абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, слуцкага паўстання, іншых падзей і ўгодкаў грамадскіх, культурных дзеячоў (якія па ідэалагічных прычынах замоўчваліся ў БССР), а таксама рэгулярных сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі з 1952 г. і Аўстраліі з 1976 г.

Ахвяраваннямі і высілкамі замежных суродзічаў існуе беларускі перыядычны друк. У даведніках ЗША аб этнічнай прэсе адзначана, што ў 70—80-х гадах у гэтай краіне выходзіла 14—15 выданняў на беларускай мове. Найбольш папулярная ў нацыянальных асяродках многіх краін газета «Беларус», якая выдаецца ў Нью-Йорку з 1950 г., а апошнія гады тыражуецца і на Беларусі. У ЗША выходзяць «Беларуская думка», «Полацак», «Беларускі дайджэст», «Царкоўны светач», «Весткі і паведамленні Нью-Йоркскага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання», у Канадзе — часопісы «Зважай» і «Прамень», бюлетэнь «Царкоўныя навіны», у Вялікабрытаніі — «Сіла веры» і «Голас часу», у Аўстраліі — бюлетэнь Федэральнай рады беларускіх арганізацый, царкоўны бюлетэнь і інш. На навуковай канферэнцыі «Культура беларускага замежжа» З. і В. Кіпелі прыводзілі звесткі, што беларуская перыёдыка ў дыяспары з 20-х гадоў і па сёння складае больш за 360 газет і часопісаў, а таксама сотні кніжак.

Добры падмурак для захавання нацыянальнай свядомасці, развіцця культурнай спадчыны ствараюць такія цэнтры гуртавання творчых, інтэлектуальных сіл эміграцыі, як Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (з 1951 г.), у Таронта (з 1967 г.), Англа-беларускае таварыства (з 1952 г.), бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане (з 1977 г.), Інстытут беларусаведы і музей у Ляймене (ФРГ, з 1982 г.), Беларускае культурна-мастацкае і навуковае таварыства ў Саўт-Рыверы, грамадска-культурныя цэнтры ў Нью-Йорку, Нью-Джэрсі, Кліўлендзе, Таронта і інш. Яны публікуюць літаратурныя творы і навуковыя працы, збіраюць палотны беларускіх мастакоў замежжа, ладзяць выставы культурна-гістарычнай тэматыкі, выяўленчага мастацтва, мастацкіх вырабаў, арганізуюць навуковыя канферэнцыі, семінары, лекцыі па праблемах Беларусі, спрыяюць вывучэнню нацыянальнай спадчыны. Стварэнне даследчыкамі ў эміграцыі канцэпцыі гістарычнага развіцця Беларусі, яе культуры з улікам нацыянальных інтарэсаў і ўласных патрэб беларускага народа, творчая спадчына пісьменнікаў, публіцыстаў, мастакоў, кампазітараў, спевакоў заклалі духоўную аснову беларускасці ў замежжы. У гэтым плане цікавае выказванне пра эмігранцкую паэзію літаратуразнаўцы У. Гніламёдава, які падкрэсліў, што «ў ёй адлюстраваны не толькі час і абставіны, але і асаблівасці нацыянальнага менталітэту, бо ў эміграцыі характар беларуса праявіўся... больш выразна, чым дома». Але, здаецца, самым галоўным у захаванні замежнымі суродзічамі нацыянальных аспектаў жыцця застаюцца іх адданасць беларускай ідэі, энтузіязм і самаахвярнасць многіх, бо гэтая дзейнасць амаль цалкам носіць дабрачынны характар, людзі не шкадуюць свайго вольнага часу і грошай. Вось ужо 35 гадоў беларуская радыёпраграма ў Чыкага існуе выключна на сродкі сваіх слухачоў. «Наша газета выдаецца дзякуючы ахвярнасці чытачоў»,— паведамляе «Беларускі дайджэст» (выдавец і рэдактар М. Прускі, Гранд Рэпідз, ЗША).

Несумненна, нельга не сказаць аб цяжкасцях у нацыянальна-культурнай працы заходняй дыяспары. Яны вынікаюць з пэўнай канфесійнай раз'яднанасці, палітычнага падзелу эміграцыі вакол двух цэнтраў —, Рады БНР і БЦР, амбіцый асобных лідэраў, індыферэнтнасці пэўнай часткі замежных суродзічаў, іх асіміляцыі.

Вопыт заходняй дыяспары па арганізацыі культурнага, духоўнага жыцця на нацыянальнай аснове, захаванню сваёй этнічнай культурнай адметнасці, абагачэнню нацыянальнай спадчыны мае практычнае значэнне для беларусаў у новых незалежных дзяржавах, якія паўсталі пасля распаду СССР...

**Галіна СЯРГЕЕВА,**
кандыдат гістарычных навук.



Др. Вітаўт і Зора Кіпель ў Менску ў 1992 г.

## *Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва — 45 год*

«Беларускі Дайджэст» ды выдавец Мікола Прускі сардэчна віншуюць БІНІМ і ягонага старшыню др. Вітаўта Кіпеля з 45-ці годзьдзем. Гэтая культурна-навуковая інстытуцыя заваявала сабе самае першае месца сярод усіх беларускіх арганізацыяў у замежжы. Жадаем БІНіМ'у посьпехаў, плённасьці і далейшае разбудовы.

# "БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ"

Адзінагалоссе і згода пры абмеркаванні любых пытанняў на ўсемагчымых сходах, пленумах, з'ездах, канферэнцыях часоў дэмакратычнага цэнтралізму ВКП(б)-КПСС звычайна выяўлялася сталінскім сілагізмам: "Пытанні ёсць? Пытанняў няма і не павінна быць!" Падчас так званых хрушчоўскай "адлігі" і "спелага" сацыялізму часоў Брэжнева суладдзе і адабрэнне вечнаправільнага курсу адпавядала схеме "задачы ясныя, мэты вызначаны..."

Сённяшні дзень пацвердзіў, што Беларусь уступае ў "новую" фазу выяўлення ўсенароднай падтрымкі па формуле "Хто супраць? Устаць!" Менавіта так, у літаральным сэнсе, прэзідыум г. зв. першага ўсебеларускага сходу звярнуўся да шматтысячнай прапрэзідэнцкай зборні. Бо не ўсе дэлегаты прыслухаліся да прэзідэнцкай парады выкінуць "все это с головы", а таму некалькі прагаласавалі супраць выніковай рэзалюцыі. Такія неардынарныя адносіны да меншыні з боку арганізатараў сходу тлумачацца, мусіць, не столькі патрэбай выявіць непасрэдна тых адзінацаць гаротнікаў, колькі жаданнем удасканаліць прадстаўнічае сіта. Арганізатараў вялікай гаманы, усеагульнай падазронасці і шпіёнаманіі, прэзідэнцка-студэнцкіх футболаў ды іншых палітызаваных відовішчаў наперадзе чакае вельмі адказная праца: селекцыя будучых дэпутатаў, сенатараў, канстытуцыйных і гаспадарчых суддзяў. У далейшым трэба вока ды вока!

Усе выступы "народных прадстаўнікоў" можна падзяліць на дзве групы. "Метал" у голасе вайскоўцаў-адставнікоў, працаўнікоў дзяржбяспекі і праваахоўных органаў трансфармаваўся ў звычайны пералік тых, хто выступае супраць прэзідэнцкіх навацый. Другую (і асноўную) групу выступоўцаў складалі тыя, хто рапартаваў аб ужо дасягнутых і непазбежных поспехах у будучыні. Рапартаманія настолькі захапіла "народам абраных і пасланых", што ўзнікала пытанне: а ці ўсвядомілі яны, дзеля чаго прыехалі на сход?

Як і належыць, асабняком стаялі пазіцыі творцаў. Праўда, гэта былі не рамантызаваныя і бескарысліва адданыя беларускай культуры майстры сцэны, слова, пэндзля, у якіх натхненне і талент — дар Божы. Культурніцкую групу электарата прадстаўлялі толькі тыя, хто культуру тлумачыць у якасці падпоркі для існуючага палітычнага рэжыму. Менавіта з такой пазіцыі спрактыкаваны "падтрымач" прэзідэнта і на грамадскіх пачатках — тэатральны солтыс Беларусі с. Яроменка-старэйшы ў бліц-інтэрв'ю на сходзе ні з таго ні з сяго абвясціў, што А. Лукашэнку ён успрымае ў якасці свайго сына(!?). Такога роду сублімацыю (перанясенне) бацькоўскай пачуццёвасці нельга вытлумачыць нават рэактыўнасцю творцы. Няўжо дзеці легендарнага лейтэнанта ўжо састарыліся і прэтэндуюць цяпер на ролю таты для ўплывовых сыноў? Падумалася і іншае. А, можа, гэта спецыфічная споведзь і пакаянне загартаванага ліцадзея, адчуванне віноватасці перад усенароднаабраным за свае колішнія кпіны з тады яшчэ кандыдата ў прэзідэнты? Бо Яроменка-старэйшы быў удзельнікам перадвыбарчай каманды В. Кебіча.

Сапраўды, адносіны "бацька—сын" у кантэксце культуры ёсць не толькі тыповая ролевая форма выяўлення адносінаў паміж пакаленнямі. Тут усё значна складаней. Вось, напрыклад, выступ на сходзе старшыні пастаяннай камісіі па адукацыі, навуцы і культуры Вярхоўнага Савета Беларусі тав. У. Плецюхова (нядаўняга прарэктара Брэсцкага педагагічнага універсітэта) якраз і засведчыў, як асобныя "бацькі і дзеці" разумеюць беларускую культуры. Асноўны заканадаўца і вызначальнік духоўнай сферы Беларусі ўмудрыўся на сходзе ў сваёй прамове не толькі не ўпамянуць перспектыў развіцця, але і ўвогуле нават не згадаць аб існаванні беларускай адукацыі, культуры і мовы.

Слухаючы Уладзіміра Анесцієвіча Плецюхова, рэаніматара артадаксальнага бальшавізму на Беларусі, успомнілася, што яшчэ падчас спроб пабудовы камунізму ў якасці ілюстрацыі інтэрнацыяналізму ў дзеянні лектары універсітэтаў марксізму-ленінізму і таварыства "Веды" прыводзілі вельмі папулярны прыклад: жыве і працуе ў Брэсце дацэнт-гісторык КПСС Анесцій Эмпедоклавіч Кайханідзі, спецыяліст па нацыянальных пытаннях і шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржаве. Ягоны інтэрнацыяналізм праяўляецца ўжо ў тым, што родам ён з Каўказа, лічаць яго грузінам, а сам сябе ён вызначае грэкам, а жонка ў яго руская...

Такога роду прыкладамі ідэалагічныя байцы падводзілі да высновы: вось гэта і ёсць узор савецкага чалавека будучыні. І пагэтаму натуральна, што Уладзімір Анесцієвіч Плецюхоў (прозвішча па маці) інтэрнацыяналіст ад нараджэння. У газеце "Вечерний Брест" (N 37, 1996 г.) ён, напрыклад, выхваляецца тым, што менавіта ён ініцыіраваў у ВС прыняцце Закона "о новой (чытай: лукашэнкаўскай) символике. Его "пробивал" я, и сделать это было нелегко". Трагічна, але здзек над усім беларускім як форма выжывання "інтэрнацыяналістаў-прафесіяналаў" стаў змрочнай традыцыяй у беларускай гісторыі. Фізік па прафесіі, савецкі камуніст па перакананнях і дзеяннях тав. Плецюхоў, напісаўшы сумесна з В. Стражавым брашуру аб рэлятывісцкіх (адносных) хвалевых ураўненнях, мусіць, засвоіў, што і ў сферы маралі ўсё адносна. То, мабыць, адсюль і маральная дваістасць старшыні парламенцкай камісіі па культуры: з аднаго боку падтрымка праекта Канстытуцыі "нармальнага мужыка" ў Вярхоўным Савеце і Палацы спорту, а з другога — нібыта і здаровы сэнс у разважаннях аб будучых прэзідэнцкіх сенатарах: "Что такое двухпалатная система в Беларуси? Это же смех!.. Кто войдет в верхнюю палату? Шестеро президентских "вертикальщиков" на местах плюс их заместители? Понятно, что это абсурд".

Бываюць жа ў вучоных мужоў азарэнні...

**Мікола АНЦЫПОВІЧ**

*Ніл Гілевіч*

## ДЗЕЛЯ ЧАГО ЁН ІРВЕЦЦА ДА НЕБМЕЖАВАНАЙ ДЫКТАТАРСКАЙ УЛАДЫ?

Грамадства, да якога мы належым, ужо далёка не тое, якім яно было дваццаць і нават дзесяць гадоў назад. Адбыліся велізарныя і незваротныя перамены ў светапоглядзе, у псіхалогіі, у маральным самапачуванні соцень тысяч людзей... Зрабіць іх Многія паразумнелыя нарэшце грамадзяне называюць запланаваны рэферэндум непатрэбным і абсурдным. Правільна і справядліва! Аднак пры гэтым чамусьці не гавораць, што мінулагодні рэферэндум быў гэтаксама і непатрэбны і абсурдны. І больш таго — вельмі подлы. Вынікі яго аказаліся страшнымі. У грамадстве адразу ж рэзка абазначылася канфрантацыя, адбыўся амаль поўны раскол інтэлігенцыі. Многія з вядомых у краіне людзей прадбачылі гэта і своечасова папярэджвалі нашу грамадскасць. Але рэферэндум, на жаль, быў падтрыманы, і не толькі кандовым электаратам. Чаму? Таму што галоўнымі сваімі пунктамі ён быў скіраваны супроць праславутага несмяротнага беларускага нацыяналізму, таму што мэтай яго было паправіць "нацыяналістычную" Канстытуцыю Беларусі. Удумайцеся толькі, добрыя людзі! У Беларусі — нацыяналістычная варожая да іншых народаў і краін Канстытуцыя! Большага, прабачце, глупства, большага абсурду каб і хацеў — не прыдумаеш. Але гэта многім імпанавала: "Да, да, конечно, национализм надо пресечь!" У поспеху рэферэндуму, асабліва па такіх пытаннях, як мова і сімволіка, можна было не сумнявацца. Але поспех акрыліў ініцыятараў плебісцыту. Ага! — усклікнулі яны. — Раз удалося паправіць Канстытуцыю, то на наступным рэферэндуме ўдасца і зусім яе ліквідаваць, замяніць новай, такою, якая патрэбна "мне", усенародна абранаму. Вось што значыць боязь гэтак званага беларускага нацыяналізму, а на самай справе — беларускага патрыятызму. Вось што значыць не разумець элементарнай ісціны, што незалежную, прававу, моцную сваю дзяржаву можна пабудаваць толькі на грунце нацыянальнай ідэі, што ні адна аўтарытэтная сёння дзяржава ў свеце іншым шляхам не прыйшла да свайго сучаснага паважнага становішча.

Прыхільнікі мінулагодняга рэферэндуму хапаліся за пункт аб раўнапраўным статусе дзвюх моў. Як быццам не разумелі, што ніякага раўнапраўя не будзе, а будзе адкат да мінулага, да таго бядотнага становішча, у якім канчаткова гінула-канала мова 10-мільённага славянскага народа. У верасні 1994-га А. Лукашэнка публічна абазваў мову беларускага народа неразвітай і недасканалай. Уявіце на хвіліну, што падобнае зрабіў кіраўнік якой-небудзь еўрапейскай дзяржавы. Што сталася б з ім? Што сказаў бы яму глыбока абражаны народ? У нас жа бальшыня насельніцтва па вядомых прычынах не абразілася і нават падтрымала гэтую нялюдскую пазіцыю на рэферэндуме. Што зробіш: сотні гадоў выхоўвалі народ у такім антыбеларускім, антыпатрыятычным духу, нацыянальны нігілізм увайшоў у плоць і кроў, у гены многіх пакаленняў. На радыкальную генную трансфармацыю патрэбна як мінімум некалькі дзесяткаў гадоў, што і прадугледжвае праграма нацыянальнага адраджэння. Дзесяткі гадоў спакойнай, але зацікаўленай і натхнёнай працы, нармальнага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў спрыяльных умовах.

Калі прагучала гэта публічная абраза беларускай мовы, падкрэслю — дзяржаўнай мовы, па Канстытуцыі, стала ясна: у ліпені 1994-га ў краіне здарылася не проста прыкрая памылка, а вялікая бяда-няшчасце, здарылася памылка, якая можа перарасці ў агульнанацыянальную трагедыю. Рэч у тым, што людзі, якія гэтак "мудра" рашаюць лёс мовы, нацыянальнай гісторыі і культуры, гэтак жа будуць вырашаць і эканамічныя, і сацыяльныя, і палітычныя, і ўсе іншыя жыццёва важныя праблемы. Іначай яны проста не могуць. Такі іх агульны культурны ўзровень — узровень іх маралі, іх духоўнасці, іх прафесійнай прыгоднасці. І гэты адметны пашахонскі ўзровень ужо накладае свой адбітак на ўвесь лад і стыль жыцця, мы ўсе яго ўжо адчулі — і ўжо чырванеем ад сораму перад светам, які пачынае з нас смяяцца і адварочвацца ад нас. У краіне пачынае панаваць стыль усеагульнага таталітарнага марнатраўства, калі разумнае, таленавітае, творча перспектыўнае і плённае ідзе на здзек і глум, а бязглуздае, бяздарнае, бесперспектыўнае бярэ верх і пачынае дыктаваць сваё. Вось чаму наш Нацыянальны Кангрэс ёсць не толькі кангрэсам у абарону Канстытуцыі — супроць дыктатуры, але і Кангрэсам у абарону культуры — супроць невуцтва, дзікунства і цемрашальства.

У мінулым годзе з дапамогай рэферэндуму ў нашага народа быў адабраны нацыянальны Дзяржаўны Сцяг, нацыянальны Дзяржаўны Герб, у беларускай мовы адабраны статус адзінай дзяржаўнай, цяпер рашылі адабраць у народа свята Дзень Незалежнасці, галоўнае нацыянальнае свята краіны, — каб нават слова Незалежнасць не гучала з высокіх трыбун, святочна і ўрачыста. Ну, што ж, калі гэты гвалт усё-такі ўчыняць і Свята незалежнасці скасуюць, нам застанецца адно: святкаваць Дзень Незалежнасці, устаноўлены яшчэ ў 1918 годзе — дзень 25-га сакавіка.

Грамадзянін Лукашэнка сам пра сябе сказаў столькі вымоўнага, што наўрад ці ільга нешта істотнае дадаць. Але хацеў бы трохі сказаць пра тых, што падтрымліваюць ягоны гібельны для дэмакратычнай Беларусі курс. Іншы раз, слухаючы іх з экрана ці чытаючы ў газеце, хочацца закрычаць: Людзі! Вы, былыя кіраўнікі рэспублікі, абласцей і гарадоў, былыя міністры і падміністры! Што з вамі сталася? Як можна так непаважаць сябе? Вы, дактары і кандыдаты гуманітарных навук! Вы ж ведаеце, якія прававыя, філасофскія, маральныя прынцыпы прыняты ў дэмакратычных краінах. Як можаце вы падводзіць навуковы базіс пад хлусню і дурноту, пад цынізм і подласць? Чаму вы абараняеце тое, што абараніць немагчыма?

На шчасце, ёсць у нас, і нямала, людзей зусім іншага гарту, і з ліку былых дзяржаўных дзеячаў, і з ліку вядомых навукоўцаў, працаўнікоў культуры і адукацыі, якіх бачу і тут, у гэтай зале, і якімі я, скажу па шчырасці, проста ганаруся, таму што гэта дастойныя мужы нашай маладой дзяржавы. Ганаруся імі і ўсімі вамі, сябры, таму што іменна з імі і з вамі я звязваю надзею, што мы выстаім і абаронім гонар нацыі.

Асабіста я, многія з вас ведаюць, быў і застаюся працаўніком прэзідэнцкай формы кіравання наогул. Перакананы, што напрадвесні 1994-га, калі прымалася Канстытуцыя, была дапушчана ракавая памылка, пра што і казаў тады ж, калі яшчэ збіраліся ўвесці прэзідэнцтва. На жаль, мой голас, як і некаторых іншых дэпутатаў, пачуты не быў. Парламенцкая Рэспубліка Беларусь была ліквідавана, утварылі — прэзідэнцкую, ды з такімі паўнамоцтвамі ў руках прэзідэнта, што абраны на гэту пасаду чалавек адразу ж зразумеў: калі ліквідаваць або падпарадкаваць сабе ўлады Заканадаўчую і Судовую — можна стаць поўным і адзіным гаспадаром краіны. Зняўшы клятвенную руку з тэксту Канстытуцыі, гр.Лукашэнка і паставіў перад сабой такую задачу.

Празмерна амбіцыйны чалавек, узнесены збегам абставін занадта высока, прысвоіў сабе манапольнае права на ісціну, на адзіна разумнае рашэнне эканамічных, сацыяльных, палітычных і іншых праблем у краіне. А ўсе, хто мае сваю думку наконт шляхоў і спосабаў рашэння названых праблем, — гэта злачынцы і ворагі працоўнага народа: ні больш, ні менш. Усе яны не хочуць эканамічнага, сацыяльнага і духоўнага ўзвышэння Беларусі. Вось такая жалезная "логіка" павінна запанаваць у канцы XX стагоддзя ў адной з краін усходняй Еўропы!

Трывогай і неспакоем за лёс дзяржавы, за будучыню народа Беларусі сёння ахоплены не толькі розныя, але нават і процілеглыя па стратэгічных мэтах палітычныя партыі, грамадскія рухі, ідэалагічныя суполкі, і ўсе яны выступаюць адзіным фронтам у абарону Канстытуцыі і дэмакратычнай, прававаой дзяржавы. Здавалася б, з гэтым відочным фактам нельга не лічыцца — у вялікай палітыцы такое ігнараваць проста неразумна. На жаль, я не знаходжу падстаў спадзявацца, што чалавек на пасадзе прэзідэнта ўбачыць, наколькі складаная палітычная сітуацыя ў грамадстве, і зразумее, што ігнараваць гэтую складанасць — гэта безадказнасць, бо гэта значыць канчаткова заводзіць сітуацыю ў тупік, выйсцем з якога можа быць толькі выбух.

Перад кожным, хто мае цвярозы розум і пачуццё адказнасці за лёс Бацькаўшчыны, паўстае пытанне: дзеля чаго ўсё гэта робіцца — увесь гэты замах на Канстытуцыю, на законнасць, на Вярхоўны Савет, на Канстытуцыйны Суд? Нашто гр. Лукашэнку яшчэ большая ўлада, калі, па яго словах, яна і так у яго царская? Дзеля чаго яму патрэбны нічым не абмежаваныя паўнамоцтвы? Дзеля чаго ён хоча стаць, па ягоных жа словах, дырыжорам над усімі трыма галінамі ўлады? Прычына і мэта адна: дзеля таго, каб мець магчымасць лёгка і проста, ні ў кога не пытаючы згоды, сваім царскім указам ліквідаваць суверэнную незалежную дзяржаву Беларусь і гэтым выканаць ускладзеную на яго гістарычную місію. Кім ускладзеную — пытанне, думаю, лішняе.

# Я не пішу гісторыю, я яе зьбіраю, —

**сказала пра сябе ў часе гаворкі археолаг Ала Кваткоўская. Гэтыя словы і сталі назовам артыкула, які яна прынесла ў рэдакцыю праз колькі дзён.**

* БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА *

Пятнаццаць гадоў таму я атрымала тэму навуковых даследаванняў пра пахавальныя помнікі яцвягаў другога тысячагоддзя, і лёс надоўга звязаў мяне з Панямоннем, дзе дагэтуль я ніколі не была.* Трэба было шукаць помнікі і рабіць раскопкі, а без дапамогі мясцовых жыхароў — і ў гэтым я шмат разоў пераконвалася — працаваць было амаль немагчыма. Гэта яны, кожны пакрысе, захоўвалі гісторыю свайго краю, сваіх продкаў, і трэба было сабраць яе ў адзінае цэлае...

### "Ну глядзі, што там трэба табе", альбо "Брыдкая" работа

Пачынала я з раскопак старажытнага могільніка каля вёскі Навасёлкі Зэльвенскага раёна. Дзівіліся людзі, што спатрэбілася варушыць старыя магілы і турбаваць нябожчыкаў. Няхай сабе і невядома, чые там яны сваякі, а ўсё ж неяк не па-людзку. Таму і пыталіся неаднойчы: а нашто навуцы гэтыя старыя косці і якая ад іх карысць? І пачынала я тлумачыць, што няма іншага выйсця, як рабіць раскопкі, таму што трэба ведаць сваіх продкаў і сваю гісторыю. Гэта той падмурак, на якім грунтуецца будучыня, і з дапамогай якой людзі маюць магчымасць свядома рушыць наперад. А калі чалавек не ведае, з якога ён роду-племяні, дык адкуль жа яму ведаць сваё прызначэнне, свой шлях-накірунак. Так і будзе блукаць у цемры ды пакутваць...



❖❖❖

*Ала Квяткоўская, археолаг.*

*Родам з Берасця. Закончыла Белдзяржуніверсітэт, вучылася ў аспірантуры пры Інстытуце гісторыі Акадэміі навук. Абараніла дысертацыю пра каменныя могільнікі, цяпер распрацоўвае тэму балцкіх этнасаў на Беларусі V — VII стагоддзяў, працягвае археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Белавежскай пушчы.*

Адначасна з раскопкамі я пыталася ў людзей, што яны ведаюць з даўніны, што захавалі з расказаў сваіх бабуляў-дзядуляў. Цікава і важна было дазнацца, ці жывая ў народзе ягоная гістарычная памяць... Так пачалася наша сумесная праца: яны распавядалі, а я слухала і параўноўвала пачутае з тымі матэрыяламі, што давалі археалагічныя раскопкі. Так пачалося збіраньне гісторыі яцвягаў, і дапамагалі мне людзі — не толькі словам, але і справай.

Калі скончыліся "планавыя" грошы на раскопкі могільніка, я рушыла ў разведку, пачала збіраць звесткі пра такія ж помнікі, што захаваліся паблізу іншых вёсак. Зацікавіў мяне могільнік ля вёскі Івашкавічы, я вырашыла тут крыху пакапаць. Згадзіўся дапамагчы і мой калега А., які таксама вывучаў помнікі каменнага веку, але больш старажытныя за мае могільнікі. Капалі мы па чарзе, таму што грунт быў цяжкі — пясок з буйным жвірам. Першыя, хто прыйшоў паглядзець, што робяць людзі на горцы, былі куры...

**Першыя, хто прыйшоў паглядзець, што робяць людзі на горцы, былі... куры. Паквахтаўшы, яны хутка зніклі, замест іх з'явіліся гусі і качкі. Потым прыйшла карова.**

Паквахтаўшы, яны хутка зніклі, а замест іх з'явіліся гусі і качкі. Потым прыйшла карова. Праз некаторы час да нашых раскопак падышла старэнькая бабуля. Крыху паназірала за маімі высілкамі, нарэшце гаворыць: "Брыдкая ў цябе работа". Я пакрыўдзілася: "Чаму брыдкая?" "Брыдкая" — цвёрда адказала бабуля. Яна яшчэ трошкі пастаяла і пайшла назад, у вёску.
А мы па чарзе працягвалі капаць. Недзе праз паўгадзіны бабуля зноў з'явілася на горцы. У руках яна трымала слоік са сметанай, з кішэні сукенкі, пад фартушком, дастала па чарзе лыжку, лусту хлеба й вялікі чырвоны памідор. "Сядай і паеш, — проста сказала бабуля. — Адпачні". Праглынуўшы ўсё і падзякаваўшы старую (ад грошай яна адмовілася), я зноў узяла рыдлёўку. "Адкуль ты родам?" — запытала бабуля.
Я адказала. "А-а", — вымавіла яна, і я зразумела, пра што бабуля падумала, але не сказала, каб не пакрыўдзіць мяне: што я — чужая, не са сваіх. (Тады я сама яшчэ не ведала, што ўсе мае продкі паходзяць з Панямоння і Пабужжа і што гэтая зямля — мая радзіма, тут мае карані...)

Нарэшце паказаліся дошкі труны; хутка высветлілася, што яна захавалася цалкам. Паведаміўшы А., які ў той момант адпачываў ад капання, што мы ўжо дакапаліся да труны, у якой, мабыць, ляжыць нябожчык, я папрасіла яго дапамагчы адчыніць вечка. Рэакцыя А. была нечаканая для мяне: ён раптоўна знік з маіх вачэй, а на дарозе, што вяла да вёскі Росцевічы, дзе была наша база, узняўся моцны пыл. На месцы раскопак я засталася адна. Зусім раскапаўшы гэтую труну, паспрабавала адчыніць сама. Але века — вялікая дубовая плаха, прыбітая цвікамі, не адчынялася. Сонца тым часам хілілася на захад, дзень заканчваўся, а я сядзела каля раскапанай труны і не ведала, што ж рабіць: пакідаць на ноч адчыненую магілу — нельга, а сіл скончыць працу — не стае. На маё шчасце, з вёскі прыйшлі дарослыя і дзеці. "Дапамажыце, — прашу, — адчыніць труну". "Дух як дасць з той труны, дык усе паляжам", — адказаў нейкі дзядзька. "Лепш не адчыняць". "Але ж трэба яе вывучыць", — прасіла я. Пачалася спрэчка паміж мясцовымі; "дасць дух", "не дасць дух", — чулася паміж імі. Нарэшце вырашылі адчыняць. Хтосьці прынёс лом і асцярожна паднялі накрыўку. "Ну глядзі, што там табе трэба", — загадалі, трымаючы века, дзядзькі. "А можа, давай падамо табе на плечы гэтую труну і нясі яе сабе ў вёску, будзе табе экспанат". Адмовіўшыся ад "экспаната", я хуценька апісала пахаванне, зрабіла неабходныя замеры. "А цяпер, калі ласка, дапамажыце засыпаць магілу", — зноў папрасіла я. Гэтую працу яны дапамаглі зрабіць з большай ахвотай. На развітанне прынеслі мне рознай садавіны. Яны мяне шкадавалі...

### Раскопкі ў "Барку"

У 80-я гады пачала я даследаваць яцвяжскія старажытнасці і ў межах былога княства *Дайнава*, што месцілася ў правабярэжжы Нёмана. Старажытны могільнік на краі пагорка, што каля самае вёскі Вензаўшчына Шчучынскага раёна, з'явіўся сапраўднай скарбніцай гісторыі яцвягаў. Шмат чаго, невядомага нам, навукоўцам, распавялі і мясцовыя жыхары; некаторыя асаблівасці і рысы пахавальных звычаяў даўніны яны і патлумачылі, і дапамаглі як след асэнсаваць. Аднак не заўсёды мае даследаванні ўспрымаліся добра. Неяк на пачатку раскопаў, калі ўжо адчынялі першыя магілы, да нас на пагорак паднялася старэнькая жанчына. І адкуль толькі сілы ў яе ўзяліся адолець такую горку! Трасучы кійком, бабуля ўчыніла мне разнос: "Што ты пораш гэты "Барок", тут воіны пахаваны. Дай ім спакой! Не тое, збяру мужыкоў па вёсцы, возьмуць яны коллі, мы табе пакажам, як рушыць магілы!" Так, выпадкова, я даведалася, як завецца могільнік і хто ў ім пахаваны. А ўвечары, папытаўшы, дзе жыве, пайшла я да бабулі, каб замірыцца, ды пагаманіць пра даўніну. Але бабуля была няўмольная. З'едліва спытала: "Што, бальшавікам ужо й косці нябожчыкаў спатрэбіліся?" На ўсе свае пытанні я чула адказ: "Не ведаю", "не памятаю"...

### З ласкі пана Міхала

Гады два таму я зноў апынулася ў Шчучынскім раёне, у межах Дэйнавы. Згодна з сабранымі звесткамі, у ваколіцах вёсак Бакшты, Плёткі, Мацюкі і іншых знаходзіліся старыя яцвяжскія пахаванні. З цяжкасцю здабыўшы грошы на раскопкі, рушылі ў вёску Плёткі, дзе былі аж тры старыя могільнікі. Але ніводны з іх ужо не існаваў: усе былі разбураныя. Седзячы на пляцоўцы аднаго былога могільніка ды гледзячы на раскіданыя чалавечыя косці, я горка думала пра тое, што экспедыцыя пачалася няўдала, што трэба вяртацца і шукаць новае месца для працы, што пакутнікам-яцвягам і пасля скону няма месца на роднай зямлі, што... І раптам на дарозе з'явіліся двое старых. Падыйшлі, павіталіся. Адзін уважліва паглядзеў на мяне, ціха сказаў: "У лесе ёсць "шведскія магілы". Памаўчаў і дадаў: "Сёння вялікая гарачыня і я не змагу адвесці цябе паказаць гэтае месца. Лепш заўтра, да спякоты".

Так дзякуючы пану Міхалу Хвайніцкаму я даведалася пра яцвяжскія пахаванні канца першага тысячагоддзя нашай эры, крыху пазней знайшлі і паселішча гэтага ж часу, а потым — і ўзгорак, дзе раней было свяцілішча. З ласкі пана Міхала даведалася, што месца, дзе знаходзіцца паселішча, завецца "Селішча", рачулка, што працякае побач, — Латачок (дарэчы, на сучасных картах яна пазначана як безыменны ручай), а лес, якім затулены стары могільнік, мае назву Мазігай. У перакладзе з літоўскай мовы"мазі" значыць "невялікі", а "гай" — "лес". Больш за тое. Аказваецца, раней кожны кавалак зямлі — пагорак, нізінка, паша ды іншае — мелі свае назвы-імёны...

### Уваходжанне ў Пушчу

Абставіны складваліся так, што я не мела магчымасці праводзіць даследаванні ў Пабужжы, якое — гэтак жа, як і Панямонне, — ёсць старажытнай зямлёй яцвягаў. Трапіла сюды толькі ў 1994 годзе. Невялікія раскопкі старажытных курганоў зрабілі каля вёсак Свішчава і Трасцяніца, што ў Камянецкім раёне. А летась пашчасціла папрацаваць у Белавежскай пушчы. Ніхто і ніколі не даследаваў тут археалагічныя ды гістарычныя помнікі, таму і былі яны для нас, навукоўцаў, невядомыя. Як і ў Панямонні, шмат давялося гутарыць з мясцовымі жыхарамі. Колькі вёрстаў прайшлі мы скрозь Пушчу — не ведаю, але гэтае ўваходжанне было надзвычай выніковае. Знайшліся тут і курганы, і свяцілішчы, і старажытныя паселішчы. Працы — на многія гады. Як і ў Панямонні, вялікую паслугу зрабілі людзі. Часам, адкладаўшы ў бок сваю працу, яны чым маглі памагалі нам.

Летам 1995-га стаяла надзвычайная спякота, абмялелі рэкі, зрабілася цвёрдай, што камень, зямля. Стомленая прырода чакала дажджу. Аднойчы, калі спякота, здавалася, здолее нас зусім, я не вытрымала і запытала ў жанчын: хіба ж не ведаюць яны, што трэба рабіць, калі патрэбны дождж? Яны адказалі, што ведаюць, аднак гэтага самі яны не рабілі, а вось у суседняй вёсцы, дык там і напраўду прасілі дажджу... Вось раней, працягвала я распытваць, калі якая хвароба ці іншая навала прыходзілі ў вёску, жанчыны ўвечары збіраліся ў хату і сядалі за кросны, каб ад заходу да ўзыходу сонца саткаць палатно, а потым на ранку абнесці ім вёску, і такім чынам здолець бяду. Ці робяць гэта цяпер? Так, робяць, — пачула ў адказ... Вось раней, кажу, у труну нябожчыку клалі сякеру ды іншыя рэчы. А ці робяць зараз? Не, не ў труну. Сякеру кладуць на падлогу, пад лаўку, на якой стаіць труна з нябожчыкам. А дзеля чаго? — пытаюся. Так трэба... Вось раней былі святыя крыніцы і дрэвы, людзі хадзілі да іх памаліцца за сябе і сваякоў, набраць гаючай вады. А ці ёсць такія крыніцы і дрэвы цяпер? Так, ёсць. І мне распавялі, як яшчэ нядаўна хадзілі да грушы, што каля вёскі Бушмічы, насілі з сабою невялікія крыжыкі, якія ўтыкалі ў зямлю побач. А яшчэ вельмі добрая вада з крыніцы каля Жыровіцаў, туды таксама хадзілі, калі была патрэба. Шмат крыніцаў з гаючай вадой ёсць і ў Пушчы.

Даведаліся мы і пра святы камень, на якім ёсць адбіткі нагі "Божай Маці", што каля вёскі Брады. Пад каменем тым — крыніца. Мы наведалі гэтае месца. Адбіткі і сапраўды вельмі падобныя на босую чалавечую ступню. Штогод у свята *зелянец* (свята памінання продкаў) сюды ідуць людзі, нясуць, як і шмат вякоў таму, розныя падарункі: цукеркі, печыва, грошы, стужкі ды іншае. Раз на год яны прыходзяць разам, каб засведчыць продкам еднасць і згоду паміж сабой, падтрымаць сувязь з душамі памерлых і атрымаць ад іх благаславенне і дапамогу. Пошукі помнікаў даўніны прывялі нас у вёску Студзенікі, што ў Свіслацкім раёне. Тут пачулі мы пра абрад абвяшчэння хатняй жывёлы, што памёр гаспадар (або гаспадыня), каб не было ўбытку ў гаспадарцы. А яшчэ ў вёсцы быў калісьці калодзеж з гаючай вадой. Каб збылося патаемнае жаданне, людзі кідалі ў яго грошы... А яшчэ мы сустрэліся з людзьмі, якія вядуць сваё паходжанне ад яцвягаў... А яшчэ на вуглах многіх хатаў бачылі выяву: ромб з кропкамі ўнутры яго — старажытны сімвал засеянага зернем поля. Часта бачылі і стралу — сімвал Бога-Абаронцы Пяруна (Пяркунаса ў літоўцаў); выяву сонца — сімвал вечнага цяпла і святла; выяву жанчыны — сімвал маці-зямлі і ўрадлівасці; галаву каня або падковы — засцерагальнікі ад злой сілы...

Стаўлю шматкроп'е.
І напаследак зычу:

Няхай пад аховаю гэтых сімвалаў-выяваў жывуць, не ведаюць гора мае землякі, нашчадкі старажытнага яцвяжскага краю. Жывуць у згодзе-спакоі, з верай і спадзяваннем на ўсё лепшае. Іхняя шчырасць, ветласць, дабразычлівасць і гумар будуць заўсёды мяне абнадзейваць, клікаць у дарогу, на нязведаныя гістарычныя шляхі Беларусі.

## Нам пішуць... Нас пытаюць...

Паважаны Спадар Пpускі!

Пасылаю Вам сваю сьціплую ахвару на сьвяточны выпуск газэты. Хацеў зрабіць гэта раней, адразу пасьля атрыманьня лістападаўскага нумару, але ня змог. Якраз месяц назад я меў апэрацыю — паставілі 4-ы адводы каля сэрца. Дзякаваць Богу апэрацыя прайшла пасьпяхова. Падобную апэрацыю я меў 6 гадоў таму назад. Трэба, набраўшыся цярпеньня, набіраць моцы.

З прывітаньнем і пашанаю, Ваш Р. З.

*Дзякуем за ахвяру і ліст. Жадаем Вам моцнага здароўя і доўгага жыцьця. Беларуская справа Вас патрабуе.*

Паважаныя Вера і Мікола Пpускі!

Вітаю Вас з наступаючымі Калядамі і Новым Годам. Жадаю шчасьця, здароўя і посьпехаў у Вашай цяжкай грамадзкай працы.

Шчыра дзякую за прысыланьне газэты. Перасылаю ахвяру. Спадзяюся, што Бог дасьць Вам сілу дзеля барацьбы за спасеньне нашай дарагой Бацькаўшчыны. Я таксама перажываю за падзеі на Беларусі. Нажаль, дзеля дрэннага здароўя я яшчэ не асьмелілася туды паехаць. Таксама надмерная русыфікацыя нашага народу неяк адхіляе мяне зрабіць гэты крок. Пакладаю надзею на Бога. Яшчэ раз жадаю Вам усяго найлепшага і шчыра Вас вітаю.

Вашая зямлячка, Н. Б.

*Таксама жадаем Вам усяго найлепшага, а асабліва моцнага здароўя і ўсякага шчасьця.*

Паважаны Сп. Пpускі!

Пасылаю Вам ахвяру на выдавецтва "Беларускага Дайджэста", вельмі добра і цікава рэдагаванае газэты з багатым падборам важнейшых інфармуючых вестак.

Пры нагодзе дазвольце пажадаць Вам, Вашай дзельнай памочніцы Веры ды ўсёй сямейцы вясёлых, здаровых Калядаў і шчасьлівага, памыснага, як у жыцьці так і ў Вашай выдавецкай працы, Новага Году!

З пашанай да Вас і падзякай за ўвагу, В. П.

*Усяго Вам найлепшага жадаем мы таксама.*

Паважаны Спадар Пpускі!

Шчыра дзякую Вам за "Беларускі Дайджэст". Дай Божа Вам здароўя для далейшай працы на карысьць нашага беларускага народу.

Віншуем таксама з Калядымі сьвятамі і Новым Годам усіх беларусаў ды Вас і Вашу сямейку. Далучаю маю ахвяру на выдавецкі фонд газэты.

З павагай, сям'я С.

*І Вам таксама за ўсё дзякуем.*

Вельмі Паважаныя Сд-ня Вера і Сп. М. Пpускі!

Год хуценька прабег і прыйшоў час каб напісаць Вам некалькі радкоў ды паслаць ахвяру на газэту "Беларускі Дайджэст".

Карыстаючы з нагоды, мы хочам падзякаваць Вам за вялікую працу, якую Вы ўкладаеце ў газэту, клапатліва, як пчолкі зьбіраючы матэрыял і складаючы ўсё ў цікавую газэту. Нам чытачам прыемна рэгулярна атрымоўваць і чытаць "Беларускі Дайджэст", а Вам трэба "ў поце чала" над гэтым добра папрацаваць...

Так як "Беларускі Дайджэст" публікуецца рэгулярна, — мо маглі-б Вы зьмяшчаць у ім ад часу да часу Літаратурную старонку? Мы толькі «аблізваемся» чытаючы артыкулы Сп. Л. Юрэвіча, дзе ён апісвае нашых знаных паэтаў і празаікоў. Здабыць і пачытаць іх творы нам немагчыма.

Бывайце здаровы і жывіце больш як «sto lat». Няхай наступны Новы 1997-ы Год будзе для Вас спрыяльным і рахманым. Merry Chrystmas!

З пашанаю, А.А. і Г.С.

*Дзякуем за ліст і ахвяру. Зьмяшчаць Літаратурную старонку мы можам, але на гэта патрэбныя творы нашых мастакоў слова. Няхай прысылаюць...*

Вельмі Паважаная сям'я Пpускіх!

Вітаем Вас з Вялікім сьвятам — Раством Хрыстовым!

Жадаем Вам добрага здароўя, спакойнага і радаснага жыцьця і добрых посьпехаў у працы ў наступным 1997-м годзе. Маю надзею, што будзеце віншаваць із Сьвятам усіх чытачоў, дык успомніце і маю сямейку прот. а. Міхася Страпко.

З вялікаю пашанаю да Вас, заўсёды Ваш Багамолец а. Міхась Страпко.

*Паважаны а. Міхась! Дзякуем Вам за добрыя словы і жадаем Вам усяго найлепшага.*

Паважвны Сп. Пpускі!

Дзякую за газэту. Вельмі цікавая. Не спыняйце выдаваць. Перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд.

З пашанай, І. Ц.

*Дзякуем за ахвяру. Газэту будзем старацца выдаваць, але нам патрэбныя новыя чытачы, ахвярадаўцы ды памагатыя...*

Паважаны Рэдактар!

Я ня ведаю ці Вы атрымоўліваеце "Голас радзімы"... Я атрымоўваю. І вось у № 48, за 28 лістапада мне кінулася ў вочы інтэрв'ю з Янкам К. з Англіі. Ён першы раз пасьля вайны адведаў сваіх родных у Беларусі. Я са сваёй жонкай першы раз адведаў сваю радню яшчэ падчас існаваньня СССР у 1973 г.. Па прыездзе да родных мы мусілі на працягу сутак замальдавацца ў пашпартным стале і там запоўніць розныя анкеты. Там-жа нас паінфармавалі, што мы ня маем права выязджаць за межы раёна. Калі-б жадалі то мусілі-б атрымаць дазвол ад міліцыі... У Брэсьце, на граніцы, нас вельмі дакладна абшукалі. Мая жонка (ангелька) як і я ўсё гэта вельмі перажывалі. Мінаючы ўсё, мы шмат разоў адведвалі родных, бо жадалі ім матэрыяльна памагчы. Апошні раз мы былі прысутныя на Зьездзе Беларусаў з усяго сьвету ў Менску ў 1993 г. Ах, Божа, як гэта было прыемна сябе адчуваць вольна. Нас поўніла пачуцьцё свабоды і радасьці, што па такве́ля гадох няволі Беларусь сталася вольнай, незалежнай краінай. Нам нідзе ня трэба было мальдавацца і было вольна адведаць родных усюды, дзе-б яны ні жылі.

Як цяпер бачу з інтэрв'ю Сп. Янкі К., дзякуючы палітыцы Лукашэнкі, старая бальшавіцкая сыстэма падазрэньня і недаверу поўнасьцю вярнулася. Ня толькі што прыехаўшы на Бацькаўшчыну трэба мальдавацца ў міліцыі, дык яшчэ трэба плаціць 20 тысяч рублёў за кожны дзень пражываньня на беларускай зямлі. Вось вам і незалежная Беларусь! Лукашэнка хоча далей трымаць несьвядомы народ за жалезнай заслонай...

Нам, беларусам, пражываючым у вольным сьвеце ня трэба маўчаць, а ўсімі сіламі трэба змагацца за незалежнасьць Беларусі.

З пашанай, С. Б.

PS. Залучаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты.

*Так, на Беларусі ізноў уладараць даўнейшыя чорныя сілы... Сорамна за народ... да рэчы гэта не народ, а табун баранаў... даруй, Божа, мне гэты грэх...*

В. Паважаны Сп. Пpускі!

Шчыра дзякую за газэту "Беларускі Дайджэст". Высылаю ахвяру па маёй змозе. Жадаю вялікага посьпеху ў патрыятычнай працы і прашу Бога, каб усім Вам дапамагаў у гэтай працы на славу нашай Бацькаўшчыне.

З вялікім пашанаю, а. М. Т.

*Дзякуем за ахвяру і Сьвяточныя пажаданьні. І Вам усяго найлепшага.*

Даражэнькі Коля!

Газэты атрымала, шчырае дзякуй. Я ведаю, што гэта за праца выдаваць газэту... Табе належыцца падзяка ад усіх нас на эміграцыі і патрыётаў на Бацькаўшчыне. Ці газэта туды даходзіць? Яна цудоўная. Сьвяточнае выданьне належнае, і дзядзькі Міхася пераклад прыгожы ды адпаведны супакою гэтага часу.

Аднак падзеі апошнім часам на Радзіме далёкія ад супакою. Хацелася-б прачытаць глыбока патрыятычныя ды магутныя словы супраць прайдзісьвета Лукашэнкі... словы, якія білі-б як молатам ды будзілі заспаныя душы нашага люду. Апошнім часам прыходзіцца чуць прыкрыя словы пра наш народ ад розных палітыкаў ды журналістаў. Нажаль яны кажуць праўду. Беларусы прывыклі быць парабкамі і жыць пад прымусам. Вось і Вольная Беларусь! Неспадзявана стала вольнай. А куды ідзе цяпер? Я атрымала ліст з Бацькаўшчыны, дзе мне пішуць, што калі я хачу цяпер прыехаць на Радзіму, то лепей не, бо небясьпечна. Я ўсімі гэтымі падзеямі вельмі непакоюся і перажываю. Ад родных ужо даўно няма вестак. Я да іх час ад часу пішу, але ці мае лісты даходзяць?.. Далучаю ахвяру на газэту.

Усяго найлепшага, Ваша Н. М.

*Дзякуем за ліст і ахвяру. Думку Вашу разумеем і разам з Вамі перажываем.*

Даражэнькі Зямляк!

Даўно хацеў "зьвязацца" з Вамі, бо і я некалі выдаваў бюлетэні — "Інфармацыйныя Сшыткі" аб Беларусі. Таму маю вялікі рэспэкт да Вас і Вашае жонкі. Дай Бог Вам посьпехаў на гэтай ніве. Ад двух гадоў я моцна хварэю... Было некалькі апэрацыяў. Не абышлося бяз боляў... і да сёньняшняга дня. Аднак патроху хаджу і нават магу напісаць некалькі слоў. Стараемся дапамагаць родным на Беларусі, — за два гады выслалі 26 пасылак. А памагаць родным трэба. Каб толькі Лукашэнка-чабан не закрыў граніцы.

З пашанаю, Ваш У. С.

*Дзякуем за ліст і жадаем Вам моцнага здароўя ў наступаючым Новым Годзе.*

Вельмі паважаны М. Пpускі!

Прыехала я з Рыгі ў 1974 г. У Латвію пераехала ў 1969 г. з Віцебскай воб. Закончыла Інстытут і выйшла замуж. Маю двое дзяцей, сыну 25 гадоў. Грамадзянства ня мелі. Працы ў цяперашні час таксама ня было. І вось па Божай міласьці давялося прыехаць у Амэрыку. Працавала у адной сям'і, цяпер працую ў другой. Чытала Вашу газэту і надалей хачу яе чытаць... Высылаю ахвяру на газэту.

Некалі Вы пісалі пра беларусаў у Аўстраліі. Мой сын якраз выехаў у Аўстралію і хацеў-бы пазнаёміцца са сваімі людзьмі. У Латвіі нам жыцьця няма, таму і едзем хто куды. А што будзе ў Беларусі, толькі адзін Бог знае... Родныя пішуць, што і там жыцьця няма. Я дзякую Богу, што мне ўдалося прыехаць у Амэрыку і адсюль дапамагаць родным... Няхай Новы Год дае Вам многа здароўя, сілы і энэргіі... Выбачайце за памылкі, чытаю добра, а пішу з памылкамі.

А. М.

*Трэба спадзявацца і верыць, што ўсё будзе добра. Жадаем Вам здароўя і шчасьця ў Новым Годзе.*

Шаноўны Спадар Пpускі!

Чытаючы "Беларускі Дайджэст" атрымоўваецца нейкая надзея, што Беларусь будзе Беларусьсю... Мільёны беларусаў любяць і абараняюць дэмакратыю, хочуць каб Беларусь была ў Эўропе, а не ў Азіі... Выглядае, што Лукашэнка імкнецца быць дыктатарам і жудасна расправіцца з апазыцыяй. Яго заўзята падтрымоўваюць бальшавіцкія цьвёрдалобы і маскоўскія заправілы... Па розных вестках, найбольш бальшавікоў атабарылася на Беларусі... таму ўсе сталінскія і бальшавіцкія назвы і статуі на Беларусі ахоўваюцца і не замяняюцца. Статуі Леніна, назвы вуліц і калгасаў, — усё засталося па старому. Нават пачтовыя штэмплі яшчэ ўжо з неіснуючай камуністычнай СССР...

Праз стагодзьдзі беларусамі кіравалі жудаснымі законамі, якія выдавалі смокі-драконы...

Хрыстос казаў: «Стукайце і вам адчыняць, прасеце, і вам дадуць»... Нажаль, у беларусаў усё інакш. Хоць галавою бі аб сьцяну, ніхто не пачуе; прасі хоць ахрыпні, ніхто слухаць не хоча...

З павагай, К. В.

*Што праўда, то праўда. Але падаць духам ня трэба...*

Дарагі Мікола!

Газэта вельмі добра чытаецца і яна цяпер вельмі патрэбная ў Беларусі. Хай Вам Бог дасьць здароўе, а грамада падтрымку, каб газэта выходзіла на доўгія гады.

З В. Л. злажыліся і высылаю ахвяру на выдавецкі фонд.

Вітаем Вашу сямейку з надыходзячымі Калядамі і жадаем здароўя і памыснасьці ў Новым Годзе.

З глыбокай пашанай, М. Л.

*Шчыра дзякуем Вам за такую гойную ахвяру і жадаем Вам усяго найлепшага ў Вашым жыцьці.*

Вельмі шаноўны Мікола Пpускі!

Перасылаю Вам ахвяру на выдавецтва, вельмі паважнай і багатай цікавым зьместам, газэты — "Беларускі Дайджэст"... Спадзяюся, што гэты ліст атрымаеце перад новым годам, таму хачу павіншаваць Вас з Калядымі Сьвятамі і пажадаць шчасьлівага Ноавга 1997-га Году... Дай Божа ўсім нам дачакацца Ўваскрасеньня нашай Маці-Беларусі...

Сёньня пасьля другога лукашэнкаўскага рэфэрэндума, пахавалі Беларусь самі беларусы. Насельніцтва дапамагло Лукашэнку замацаваць бальшавіцка-фашыстоўскі рэжым на Беларусі. Як называць гэтае насельніцтва? Ох, які дурны, сьляпы і несьвядомы люд. Сам сябе вядзе да самагубства, да зьнішчэньня... Русафілы-маскалі сьмяюцца ды кажуць: "Да какая рязница?"

Сумна-горкая часіна... Сэрца б'ецца па начам...
Ці далёкая хвіліна, калі: "Вон!" Мы скажам палачам..

**Далёкая дарога да поўнае незалежнасьці...**

Аднак з надзеяй мы павінны быць, і з ёю ісьці далей у жыцьцё...

Жыве Беларусь!

З любоўю да ўсіх Вас, а. М. Б.

*Мы атрымоўваем вельмі шмат надзвычай вострых лістоў супраць агентурнага рэжыму на Беларусі. Большасьць з іх проста не надаецца да друку... Ясна адно. Ненавісьць да цяперашняга т. з. "беларускага" кіраўніцтва на Беларусі хутка насіляецца, як у блізкім, так і далёкім Замежжы... Жадаем Вам усяго найлепшага.*

Dear Mr. Prusky!

Best wishes of the Holidays and the New Year to you. Enclosed is my donation for 1997. I enjoy reading your newspaper. Your newspaper is more important now that our beloved Belarus is so shamelessly lead by it's president Lukashenko. It's so sad to watch what is happening in Belarus. I am sure Lukashenko is acting with Russia's approval. What we as Belarusian-Americans and freedom loving people can do? Your newspaper can energize people to write letters of protest to Lukashenko. If there are hundreds or thousands of letters they will know there is a lot of angry people over there. I did it during my stay in Poland in November as well as here. You preserve culture, language, and the traditions of Belarus. I hope God gives you wisdom to do just that. Again best wishes and God Bless.

M. D.

*Thank you for your generous donation and letter. I wish you all the best.*

## ДАРАГІЯ БЕЛАРУСКІЯ ПАТРЫЁТЫ, ПРЫХІЛЬНІКІ І СЯБРЫ!

Ізноў мінуў яшчэ адзін год у нашай цяжкай выдавецкай дзейнасьці. Газэта змагла выходзіць толькі дзякуючы Вашай, дарагія сябры, выдатнай фінансавай дапамозе і спагадзе.

Спадзяемся, што і ў наступным 1997 годзе, наша газэта зможа надалей рэгулярна выходзіць, даносіць да чытачоў цікавыя думкі і навіны, ды пры агульнай падтрымцы пашырацца аб'ёмам.

Просім дапамогі ў прыдбаньні нам новых чытачоў і прыхільнікаў. Агульным высілкам — да новых перамогаў!

Ніжэй друкуем гадавую Лісту-Сьпіс людзей добрае волі, якія — адны больш, іншыя менш — выдатна і шчыра дапамаглі нашай газэце. **Вялікае Вам Усім ДЗЯКУЙ!**

**Ахвяры: $200.oo, або больш даляраў...**

| | |
|---|---|
| Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтар у Кліўлэндзе | $500.oo |
| Др. Мацьвей Б. Смаршчок | $475.oo |
| М. Лужынскі (Аўстралія) | $400.oo |
| Віктар Ліпскі (Аўстралія) | $400.oo |
| а. Міхась Бурнос (Аўстралія) | $290.oo |
| Міхась Белямук | $250.oo |
| Ірэна Сьмірноў-Каляда | $250.oo |
| Др. Вітаўт Кіпель | $220.oo |
| Міхась Каленік | $220.oo |
| Др. Уладзімер Набагез | $200.oo |

**Ахвяры: $100.oo, або больш даляраў...**

| | |
|---|---|
| Віталі Кажан | $160.oo |
| Паўло Гуз (Аўстралія) | $160.oo |
| Браніслаў Даніловіч | $125.oo |
| Мікола Сьнежка | $110.oo |
| Др. Віталь Міленцэвіч (Аўстралія) | $110.oo |
| Міхась Шыкалюк | $100.oo |
| арх. Д. Рыжы | $100.oo |
| Янка Сурвілла (Канада) | $100.oo |
| Пятро Касаты | $100.oo |
| Ванда Махнач | $100.oo |
| Др. Алла Орса-Рамано | $100.oo |
| Віктар Чэір | $100.oo |
| Кастусь Вайцяхоўскі | $100.oo |
| Мікола Сагановіч | $100.oo |
| Др. Марыя Дэмковіч | $100.oo |
| Др. Міхась Жылік | $100.oo |

**Ахвяры: $50.oo, або больш даляраў...**

| | |
|---|---|
| Каця Вініцка | $95.oo |
| Марк С. Вайман | $90.oo |
| Расьціслаў Завістовіч | $90.oo |
| Юрка Станкевіч | $90.oo |
| а. Міхась Страпко | $80.oo |
| Янка Шымчык | $75.oo |
| Янка Юхнавец | $75.oo |
| Янка Грушык | $70.oo |
| Ізяслаў-Бруцкі, Мітр. | $70.oo |
| Леанід Норык | $70.oo |
| Юзэфа Найдзюк | $70.oo |
| Уладзімер Ракуць | $70.oo |
| Мікола Вайтовіч | $70.oo |
| Аўген Занкавіч | $70.oo |
| Алекс Сільвановіч | $65.oo |
| Нікадэм Жызьнеўскі | $65.oo |
| Надзя Міцкевіч-Касмовіч (Нямеч.) | $65.oo |
| Алекс Целеш | $60.oo |
| Мікола Кучура | $60.oo |
| Сыльвэстар Будкевіч (Анг.) | $60.oo |
| Славік Шабовіч | $55.oo |
| Мікола Грэбень | $55.oo |
| Я. Аўдзей (Нямеч.) | $50.oo |
| Вера Бартуль | $50.oo |
| А. Брушкевіч | $50.oo |
| Вольга Грыцук (Канада) | $50.oo |
| Мікола Галоўка | $50.oo |
| Др. Анатоль Занкавіч | $50.oo |
| Алекс Захаркевіч | $50.oo |
| а. Вечэслаў Ільчук | $50.oo |
| Юрка Касьцюкевіч | $50.oo |
| Кляра Кумэйша | $50.oo |
| М. Кухарчык (Кан.) | $50.oo |
| Паўло Кулеш | $50.oo |
| Ольга Канарчук | $50.oo |
| Савва Карніловіч | $50.oo |
| Надзя Мароз | $50.oo |
| В. і Т. Міцкевіч | $50.oo |
| Ванкарэм Нікіферовіч | $50.oo |
| Уладзімер Пелеса | $50.oo |
| Багдан Паўка | $50.oo |
| Васіль Плескач | $50.oo |
| Элеонора Пітушка (Канада) | $50.oo |
| Др. Барыс Рагуля (Кан.) | $50.oo |
| Барыс Русак | $50.oo |
| Янка Раковіч | $50.oo |
| Гэнрык Сенкевіч | $50.oo |
| Леў Стагановіч | $50.oo |
| Вільям Станкевіч | $50.oo |
| Якуб Сапежынскі | $50.oo |
| Адольф Субота | $50.oo |
| Мікола Сенько (Англія) | $50.oo |
| Раіса Станкевіч | $50.oo |
| Лявон Салавей | $50.oo |
| Уладзімір Траскевіч | $50.oo |
| Міхась Тулейка | $50.oo |
| Сафія Фіранчук | $50.oo |
| Др. Юрка Чарнэцкі | $50.oo |
| Ірэна Цупрык | $50.oo |
| Антон Шукелойць | $50.oo |

**Ахвяры: $45.oo, або менш даляраў...**

| | |
|---|---|
| Міхась Пашкевіч (Канада) | $45.oo |
| Алесь Міцкевіч | $40.oo |
| Уладзімер Машанскі | $40.oo |
| Др. Юрка Кіпель | $40.oo |
| Арсень Монід (Кан.) | $40.oo |
| В. Маеўскі | $40.oo |
| Уладзімер Курылла | $40.oo |
| Томас Бэрд | $40.oo |
| а. Аляксандар Яноўскі (Канада) | $40.oo |
| Марыя Кулагін | $40.oo |
| Аўген Завістовіч | $40.oo |
| Пятро Пікулік | $40.oo |
| Кастусь Мерляк | $40.oo |
| Др. Язэп Сажыч | $40.oo |
| Уладзімер Брылеўскі | $35.oo |
| Яраслаў Калюцік | $35.oo |
| Юрка Рапэцкі (Канада) | $35.oo |
| Джордж Корчык | $35.oo |
| Ніна Дудар | $35.oo |
| Аліна Айй (Канада) | $35.oo |
| Сьцяпан С. Махакей | $35.oo |
| Васіль Багдан | $30.oo |
| Уладзімер Русак | $30.oo |
| Янка Шыбут | $30.oo |
| Міхась Бахар | $30.oo |
| Мікола Патапаў | $30.oo |
| Васіль Сергіевіч | $30.oo |
| Гас Маталыцкі | $30.oo |
| Валя Мазуро | $30.oo |
| Андрэй Стрэчэнь | $30.oo |
| Аўген Кажан | $30.oo |
| Юрка Арцюшэнка | $30.oo |
| Віктар Касьцюкевіч (Канада) | $30.oo |
| Міхась Наумчык | $30.oo |
| Аляксей Кузьміч | $30.oo |
| Міхась Сенько | $30.oo |
| Пятро Недзьведзкі | $30.oo |
| Юрка Наумчык | $30.oo |
| Аўген Кабяка | $30.oo |
| Надзя Бэрт (Нямеч.) | $30.oo |
| Валянціна Букатка | $25.oo |
| А. Стукаліч | $25.oo |
| Люіс Колін | $25.oo |
| Марыя Катовіч | $25.oo |
| Кастусь Верабей | $25.oo |
| Лявон Кавалёў | $25.oo |
| Юлія Андрусышын | $25.oo |
| Яніна Каханоўска | $25.oo |
| А. Даніловіч (Я. Золак) | $25.oo |
| М. Швэдзюк (Англія) | $25.oo |
| Сп. Залога (Англія) | $25.oo |
| А. Ражанец (Англія) | $25.oo |
| Др. Лявон Трусэвіч | $25.oo |
| Віктар Казлоўскі | $25.oo |
| Віктар Балтрусевіч | $20.oo |
| Ніна Кіт | $20.oo |
| Мікола Валатоўскі | $20.oo |
| Ліда Драздова | $20.oo |
| Антон Філістовіч | $20.oo |
| а. Максім Таўпека (Канада) | $20.oo |
| Мікола Аляксандар | $20.oo |
| Марат Клякоцкі | $20.oo |
| Ян Салавенюк | $20.oo |
| Вацлава Вярбоўская | $20.oo |
| Франьцішка Рабачко | $20.oo |
| Аркадзь Сацэвіч | $20.oo |
| А. Філістовіч | $20.oo |
| Ст. Тамара | $20.oo |
| Каця Грынкевіч | $20.oo |
| Мікола Чупракоў | $20.oo |
| Кастусь Калоша | $20.oo |
| Фёдар Паўлавец | $20.oo |
| Анна Міцкевіч | $20.oo |
| Сп. Зданковіч (Англія) | $15.oo |
| П. Шыркоўскі (Англія) | $15.oo |
| Якуб Рапэцкі (Кан.) | $15.oo |
| Якаў Голбін | $15.oo |
| Ніна Орса | $15.oo |
| Барыс Клейн | $10.oo |
| Ірэна Пеплава | $10.oo |
| Міхась Калядка | $10.oo |
| Вінцэнт Зарэцкі | $10.oo |

Гэты год наша выдавецтва закончыла дэфіцытам у $335.oo даль. Спадзяемся, што наступны год будзе шмат лепшым. «Беларускі Дайджэст патрабуе Вашае дапамогі ды новых прыхільнікаў і супрацоўнікаў. Не забывайце пра нас пры апісаньні спадчыны і нерухомасьці...



У гэтым годзе, пасьля Кліўлэнду, першае месца ў дапамозе нашаму выдавецтву займеў Др. Мацьвей Смаршчок. Дарагі доктар Мацьвей! Шчыра Вам дзякуем і жадаем Вам моцнага здароўя і доўгага жыцьця!

## Belarus protests diplomat's detention in New York

Belarus has joined Russia in protesting the New York City police's handling of a case in which two diplomats from the former Soviet republics were detained.

Valery Tsepkalo, first deputy foreign minister, summoned the U.S. charge d'affaires in Minsk on Friday and demanded an apology from American authorities, the Interfax news agency reported Saturday.

Moscow claims its diplomat, Boris Obnossov, and Belarus diplomat Yuri Orange were roughed up by police after officers tried to write them a parking ticket Dec. 29. Moscow said Obnossov suffered a broken arm.

New York police have strongly denied those charges, saying Orange accosted an officer when police tried to arrest Obnossov on suspicion of drunken driving